

Род Антыховічаў→3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Са СВЯТАМ!

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 12 (2967) Год LVIII | Беласток, 24 сакавіка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# 25 Сакавіка і беларускія студэнты ў 1980-я гады

**Сёлета 29-ты раз беларусы ў пасляваеннай Польшчы адзначаць будуць Свята Незалежнасці Беларусі — вядомае як акт 25 Сакавіка. І гэта стала нармальным. Такі дзень нельга не ўшанаваць. Але даўней было інакш.**




Яўген Вапа (злева) і Юрка Ляшчынскі ў студэнцкім інтэрнаце ў Варшаве чытаюць выданне беларускіх эміграцыйных вайскоўцаў „Зважай"



Беласток 1990 г., сядзіба БГКТ. Злева: Яўген Мірановіч, Алег Латышонак, Віктар Стахвюк, Аляксандр Баршчэўскі, Юры Туронак, Ян Максімюк

Доўгі час, бо ад заканчэння Другой сусветнай вайны, ад 1945 года, гэтае свята было непрызнаванае савецкай прапагандай, забароненае і, што тут казаць, ішло ў забыццё. Так у падсавецкай Беларусі, як і ў нас, на Беласточчыне. Але да часу.

Бурлівыя перамены пачатку 1980-х гадоў у Польшчы зварухнулі і наш „спячы народ". Пачалі трапляць да нас беларускія эміграцыйныя кніжкі і газеты, а бібліятэчныя фондасховішчы ў Польшчы ставаліся ўсё больш даступнымі. Прынамсі студэнтам. Бібліятэка Варшаўскага ўніверсітэта (славуты BUW), у сваіх фондах мела шмат беларускай даваеннай, ваеннай і эміграцыйнай прэсы і літаратуры. Газеты тыпу эміграцыйны „Беларус", „Раніца" з часоў вайны, ці шэраг даваенных выданняў падрабязна пісалі пра Акт 25 Сакавіка пры нагодзе святкаванняў чарговых гадавін, вядома, перад 1945 годам, або на чужыне. Да нас, беларускіх студэнтаў, часам траплялі і эміграцыйныя выданні. Часам, бо ў пераважнай большасці канфіскаваліся Галоўным мытным ведамствам, бо... „шматлікія нацыяналістычныя, антысавецкія і антыкамуністычныя тэксты цэляць зместам у сацыялістычны лад, (...) змяшчаюць шкодны для дабра і спраў Народнай Польшчы змест, таму што парушаюць прынцыпы замежнай палітыкі нашай дзяржавы і яе саюзаў". Дасканала нашыя студэнцкія змаганні апісаныя ў кніжцы „Беларускі студэнцкі рух у Польшчы ў 1981-1992 гадах" Яўгена Вапы і Славаміра Іванюка.

З другога боку, яшчэ жылі тыя „даваенныя" беларусы, як хаця б Віктар Ермалковіч, Янка Жамойцін, Кастусь Сідаровіч ці Юры Латышонак, якія з большай, або хутчэй за ўсё меншай ахвотай расказвалі нам пра мінулае, у тым ліку і пра 25 Сакавіка.

Але трошкі г.зв. „бібулы" неяк трапляла да нас. Таму хто хацеў, мог тое-сёе прачытаць, пачуць.

Першае афіцыйнае святкаванне абвяшчэння Незалежнасці Беларусі ў форме БНР у 1918 годзе беларускія студэнты зладзілі ў 1985 годзе ў беларускім клубе ў Варшаве, што па вуліцы Сенатарскай, 8.

Вечарына была не зусім легальная, а праўленне Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства, у клубе якога адбылася ўрачыстасць, аб гэтым нічога не ведала. Нагода для такой сустрэчы — вельмі нелегальная, магла б... „парушыць прынцыпы замежнай ды ўнутранай палітыкі польскай дзяржавы і яе саюза з братняй Савецкай Беларуссю".

Аднак у палове 1980-х гадоў у Варшаве і да таго ў студэнцкім асяроддзі падобныя ўрачыстасці ладзіліся не раз.

Нашыя дзяўчаты дзесьці купілі бел-чырвона-белыя стужкі (казалі, што ў прыкасцельных ларках) на павязкі, на памятку. Запрасілі мы старэйшых і малодшых сяброў, прыехаў да нас светлай памяці Сакрат Яновіч і ліцэісты з Гайнаўкі. А мы самі падрыхтавалі мастацкую частку з вершамі і дакладам. Сам я чытаў верш Наталлі Арсенневай. Помню яго першыя радкі: „Ізноў на сьвеце Сакавік, зноў Сакавік у снах усіх...".

Даклад зачытаў Юры Туронак. Нас усіх было тады няшмат, чалавек 15-20. Святкаванне прайшло ўдала, без інцыдэнтаў і правакацыі. Ніякая міліцыя ці нават г.зв. „нашы хлопцы" — супрацоўнікі ведамага ведамства не ўварваліся ў клуб. Трымаліся мы тады моцна мер засцярогі. Але і ніякія пісаныя звесткі тады не з'явіліся ў друку. Ні ў „Ніве", ні ў „Сустрэчах", нідзе.

Пра наступную гадавіну абвяшчэння Незалежнасці Беларусі, год пазней, у 1986 годзе пісаныя зацемкі, а як жа, былі. Часопіс беларускіх студэнтаў у Польшчы „Сустрэчы" № 5 у рубрыцы „Хроніка" напісаў: „24.03.86. У Беластоку была наладжана паэтычная вечарынка. Ніхто не застаўся абыякавы да паэзіі". Коратка і змястоўна! Калі гісторыкі будуць вывучаць нашыя пытанні, цікава што падумаюць пра такую занатоўку? Ці звяжуць дату з загадкавым тэкстам? Няхай прабуюць.

Дадам ад сябе, што святкаванне акту 25 Сакавіка праходзіла ў інтэрнаце „Бэта" Беластоцкай палітэхнікі. Прысутнічала каля 30 чалавек, у асноўным студэнты, ды спадарства Юры і Вера Латышонкі.

У 1987 годзе беларускія студэнты ўгодкаў БНР не святкавалі, бо рыхтавалі з'езд усіх беларускіх студэнтаў, які зладзілі ў канцы сакавіка ў Бельску-Падляшскім.

Год пазней 70-тую гадавіны Акту 25 Сакавіка сарганізавалі на прыватнай кватэры ў Беластоку. Тады менавіта заснавалі арганізацыйны камітэт Беларускага аб'яднання студэнтаў, якое ўлады Народнай Польшчы зарэгістравалі паўгода пазней, восенню 1988 года.

Аднак самае магутнае святкаванне Незалежнасці Беларусі ў 80-тыя гады XX стагоддзя адбылося ў 1989 годзе. Ужо поўнасцю легальна, з бел-чырвона-белымі сцягамі, гербам Пагоня і патрыятычнымі песнямі. Гэта было магчымае таму, што мелі мы сваю легальную студэнцкую арганізацыю БАС, а ў той час у Польшчы ішлі перагаворы пры „круглым стале" і ўлада на больш ужо дазваляла.

Вялікі транспарант з лозунгам „25 Сакавік — Незалежнасць" вывесілі мы на інтэрнаце тадышняй Медыцынскай акадэміі, дзе праходзілі юбілейныя ўрачыстасці. А транспарант вешалі мы ўдвух — я і Юрка Каліна. На транспарант, пісаны кірыліцай, звярталі ўвагу і студэнты, і пабочныя асобы. Здзіўляліся, што гэта такое: беларускія лозунгі ў польскім Беластоку? Неверагоднае. Прысутнічала на святкаваннях тады, а гэта было 22 сакавіка, больш за сотня людзей, у асноўным, вядома, студэнты. З дакладам на тэму дня выступіў д-р Юры Туронак, а малады тады гісторык Алег Латышонак сказаў вельмі, і гэта хачу заўважыць, вельмі патрыятычную прамову.

Вось і працытую яе фрагмент: „Жывем мы ў свеце, у якім няма нічога трывалага. Дабро прыдбанае вякамі абарочваецца ў пыл. Узарваны нашы святыні, разваленыя замкі, хаты. Няма ўжо хутара, дзе нарадзіўся мой бацька, і вёскі, дзе нарадзілася мая маці. У нашай часапрасторы найбольш трывалае тое, што лятучае, ідэі. Таму дарма гаварыць, што Акт 25 Сакавіка застаўся на паперы. Напісанае застаецца. Яно нам — спадчына і заданне. Быць незалежным, быць сабой. Як беларус, як чалавек. Перад шматгалосым хорам, што ад пакаленняў паўтараў: „Забіты беларускі народ", нашыя дзяды заявілі: „ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!". І мы сваёй прысутнасцю пацвярджаем: „САПРАЎДЫ ЖЫВЕ!" („Сустрэчы", 1990, № 13).

Пазнейшыя падзеі так у нас, але перш за ўсё ў Беларусі паказалі, што Ідэя 25 Сакавіка нанава адрадзілася. Беларусь стала незалежнай краінай, з бел-чырвона-белым нацыянальным сцягам і гербам Пагоня (прынамсі ў першай палове 90-х гадоў XX стагоддзя). І наш быў, мо і невялічкі, але ўсё ж такі ўклад у адраджэнне бацькаўшчыны.

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
Радыё Беласток



# 25 Сакавіка 1918-2013

# ДЗЕНЬ ВОЛІ

## ЗАПРАШАЕМ

**на святкаванні ў Беластоку**

**24.03.2013 (нядзеля)**

$10^{00}$ **Царква Агія Сафія ў Беластоку, вул. Травяста, 5** — Св. Літургія, пасля другой Літургіі — малебен за беларускі народ

$14^{00}$ **Беластоцкі цэнтр імя Людвіка Заменгофа, вул. Варшаўская, 19.**
У праграме м.інш: гістарычная прэзентацыя, паэтычнае выступленне моладзі на словы Сакрата Яновіча, канцэрт беларускага гурту.

**Запрашаюць:**
Радыё Рацыя, „Ніва", АБ-БА, Беларускі саюз, Беларускае Гістарычнае Таварыства.



# Маркі

Напярэдадні самага беларускага свята Дня Волі надумаўся я павіншаваць тых, хто будзе сустракаць яго за кратамі і для каго гэтае свята з'яўляецца святлом надзеі і беларускага адраджэння. Зайшоў на пошту, каб набыць канверты. А там вялізэзная чарга. Стаяць пераважна жанчыны сталага веку, атрымліваюць пенсію і адразу аплачваюць камунальныя паслугі і іншыя рахункі. Пры гэтым перапытваюць супрацоўніцу пошты па некалькі разоў што і да чаго, доўга разбіраюцца ды большую частку часу губляюць на спрэчкі паміж сабой і высвятленне хто за кім займаў чаргу. Вельмі марудна тая чарга прасоўвалася. Таму я адважыўся папрасіцца набыць канверты без чаргі.

— Я ў вас часу не забяру, — тлумачу. — Мне ўсяго канверты набыць. Менш чым за хвілінку ўпраўлюся.

Але чарга адрэагавала настолькі агрэсіўна і варожа, што я ціхенька стаў у хвост і вырашыў моўчкі падпарадкавацца лёсу. Але некалькі чалавек з чаргі палічылі маю просьбу настолькі злачыннай, што не маглі супакоіцца. Доўга і галосна разважалі пра непрыстойнасць майго ўчынку і пра заняпад маралі ў грамадстве ў цэлым. Праз нейкі час жарсці патроху сталі заціхаць і вось-вось павінны былі скончыцца. Але акурат у гэты момант на пошту зайшоў мужчына прыкладна маіх гадоў з партфелем у руках. Убачыўшы доўгую чаргу, ён накіраваўся адразу да касы.

— Прапусціце мяне, — гучным басам, які не прымае адмовы, заявіў ён. — Я — сацыяльны работнік. І я спяшаюся на працу. Прабачце.

Нехта паспрабаваў паспрачацца, але сацыяльны работнік павярнуўся да яго і заявіў:

— Я ж папрасіў прабачэння! Што вы ад мяне яшчэ хочаце.

Чарга пасунулася назад і моўчкі прапусціла чыноўніка. А пасля, як той пайшоў па сваіх справах, зноў загаварыла:

— Гэтага то трэба прапускаць. Правільна зрабілі, што прапусцілі. Ён можа ў гарадской адміністрацыі працуе. І культурны які чалавек. Прабачэння папрасіў. Другі б мог яшчэ і ў вочы плюнуць. Ён жа начальнік!

Сумна было тое слухаць і чарговы раз сутыкнуцца з рабскай псіхалогіяй, якая яшчэ і шукае апраўдання сваім дзеяннем ды выліваецца ў агрэсію да ўсіх, акрамя тых, хто гэтых людзей сапраўды крыўдзіць. Але час ішоў і вось ужо і я апынуўся перад касай. Я думаў, што пра мяне ўжо ніхто не памятае, але памыліўся, бо нават тыя, хто ўжо разабраўся са сваімі справамі, засталіся, каб праверыць, ці сапраўды я буду купляць толькі канверты.

— Мне пару дзесяткаў канвертаў дайце, — папрасіў я і хуценька разлічыўся.

— А навошта вам столькі? — нечакана для мяне спыталася адна жанчына. — Вы ж — сучасныя, зараз лістоў не пішаце. Па тэлефонах эсэмэсы нейкія ўсё пасылаеце.

— На жаль, гэтым людзям эсэмэсы пасылаць немажліва, — задумліва адказваю я. — Яны ў турме сядзяць. Таму ўсё ж трэба пісаць лісты.

І патроху пасунуўся да дзвярэй. Але нечакана для сябе заўважыў, што ўсе замоўклі і здзіўлена глядзяць на мяне. Нават пенсіі перасталі браць.

— У вас так шмат знаёмых у турме?! — здзіўлена праляпятала адна жанчына.

А яшчэ адна кажа сваёй суседцы па чарзе:

— Я ж табе казала, дурная ты, што гэта можа які бандыт, а ты яго прапускаць не хацела. Так і на непрыемнасці нарвацца можна.

Я хацеў спачатку патлумачыць, што я ніякі не бандыт і людзям не помшчу за тое, што мяне без чаргі не прапускаюць. Але пасля вырашыў не губляць часу і пайшоў сабе на вуліцу. І толькі там зразумеў, што ў гэтай мітусні забыўся набыць маркі. Мне нічога не заставалася як вярнуцца. Зайшоўшы на пошту я зноў стаў у хвост чаргі, але гэтым разам усё адбылося наадварот.

— А чаго ж вы там сталі? — вывела мяне з задуменнага стану адна жанчына.

— Маркі забыўся набыць, — адказваю.

— Дык ідзіце без чаргі, — заявіла яна.

— Што ж вы стаяць столькі будзеце!

— Ідзіце, ідзіце, — наперабой залямантавалі іншыя і расступіліся.

А я быў гэтым настолькі ўражаны і разгублены, што нават забыўся падзякаваць, бо з галавы не вылазіла адна думка. Што ж гэта сталася ў грамадскай свядомасці за апошнія гады, што каб цябе паважалі трэба стаць або начальнікам, або бандытам.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Русалкі - неўміручыя

Рака Нарва паслядоўна ператвараецца ў каналізацыйны сцёк. Па крайняй меры, у яе вярхоўях паміж клаачным Семяноўскім вадасховішчам і мястэчкам Нарва. Хоць далёка ёй ад ракі Хуанпу — сцёку ў Кітаі, у якой нядаўна злавілі тры тысячы мёртвых свіней, то калі я гляджу на запоўненыя ялчэючымі на сонцы людзьмі пластыкавыя кантэйнеры, якімі масава плаваюць па Нарве летам, карціна апухлых мярцвяцкімі газамі свіней мяне не пакідае. Не вагаюся выкарыстоўваць гэтае параўнанне. Байдарачнікі, вядома, не мясцовыя жыхары, пакідаюць пасля сябе тоны смецця. Пластыкавыя бутэлькі. Пластыкавыя пакеты. Алюмініевая фольга. Кубачкі з-пад ёгурту. Аб шкляных пасудзінах, паперчынах і недаедзеных рэштках жратвы, кансерванай хіміяй, толькі ўспомню. На жаль, водных свіней у нас прыбывае. Не без прычыны натура ператвараецца ў хлеў. Усё больш і больш людзей на свеце, а сярод іх усё больш і больш бяздумных свіней. Таму Нарва будзе штораз больш падобнай на каналізацыйны калектар. Дарэчы, я хацеў бы ведаць, ці санітарныя службы кантралююць ачышчальні сцёкаў у Бандарах, у Нараўцы, у Ляўкове, у Нарве?

У мінулым годзе мне здавалася, што рака смярдзіць фекаліямі. Я не адважыўся ў ёй выкупацца і, думаю, што ўжо ніколі не адважуся. У летнія месяцы там сплываюць яе рэчышчам мёртвыя рыбы, збіраюцца ў выгібах брудныя карычневыя асадкі і пена. О, дзе ж тая Нарва, перад якой мой дзед здымаў шапку і, ідучы па спрадвечнай логіцы гэтага сціплага жэсту, чэрпаў ёю празрыстую ваду, каб сагнаць смагу?! Такая гэта была рака. Чыстая, як нектар. Ад сонечных крыніц па туманны гарызонт. Ведаю пра гэта, паколькі неаднаразова нераадольвай яе крышталёвы шлях. На надзіманай лодцы. Звычайна ў адзіночку. Упершыню ў 1975 годзе. У гонар адной гарманісткі з гарцэрскага атрада, існуючага тады ў Гайнаўцы, пантон прыняў мілагучнае імя «Дружка Тамара». Гэта было ў пачатку лета. Урачыстая цырымонія спуску на ваду адбылася. Была нават хросная і, пры недахопе шампанскага, бутэлька піва. Воклічам і пажаданням фута вады пад кілем не было канца. Акрамя таго падбадзёрваў я сябе самога, таму што хросная маці, выпадкова сустрэтая гаспадыня, на тыя мае вялікаморскія выхадкі махнула рукой і пабегла да сваёй гаспадарскай працы. Дык і я адарваўся ад берага. Нарва тады была ўрачыстая — я не знаходжу іншага слова, каб апісаць яе саборную веліч. Квітнеючыя лугі і шум аераў, гудзенне насякомых, фуркатанне птушак, уплёск жыруючых рыб, нізам празрыстая вада, уверсе стромкае блакітнае неба — так Натура адкрыла перада мной свае вароты храма. Але гэта не толькі ўрачыстая веліч Нарвы, расцягнутай старыцай аж за межы гісторыі. Гэта не толькі яе метрыка, сягаючая ятвяжскага часу, з якога, дарэчы, атрымала сваю назву. Гэта таксама непрадказальная характаралогія. Капрызная, інтрыгуючая інтымнымі меандрамі, поўная чулых таямніц і першабытнай сілы. Раз жорсткая, пераліваючаяся за межы, а часам мяккая і рамантычная. Таму што Нарва з'яўляецца багіняй Хронік легенд і Кнігі балад і рамансаў. Я адчуў прыватна яе ятвяжскае і заадно міцкевічаўскае зачараванне, калі на чарговай экспедыцыі напаткаў у адным з яе шматлікіх рукавоў сапраўдных русалак. Магчыма, гэта былі дзяўчаты з суседняй вёскі, якія вырашылі голымі пахляпацца пад аховай аеру. Для мяне, аднак, застануцца жывымі, зусім не прыдуманымі істотамі. Толькі што яны жылі ў тыя часы, калі ідэя найбуйнейшага штучнага возера ў Польшчы і нават у Еўропе адно мроілася ў чэрапах партыйных таварышаў. Я не скажу, гігантаманія тагачасных улад міла казытала ганарыстасць народа. Як быццам мы былі дзесятай эканамічнай дзяржавай свету. Мы будавалі ўласную атамную бомбу, якую прымроіў таварыш Герак. У нас быў самы вялікі флот глыбакаводных траўлераў... Праўда гэта. Мы былі, мы пабудавалі, у нас было. Прайшло некалькі гадоў і польская эканоміка апынулася не больш, чым у албанцаў. Траўлеры ператравіла іржа. Пра атамную бомбу прапалі чуткі. І калі справа даходзіць да Семяноўскага вадасховішча, у пару закінулі пабудову яго большай часткі, якая мела ўзнікнуць на беларускім баку. А на польскім баку засталося яно меншае на адну трэць. Засталося тое, што засталося. Лужына, якая павольна знішчае раку. І смуродная рака, якая павольна атручвае мае ўспаміны з маладосці. На шчасце, русалкі несмяротныя. Хай бы былі, ёсць і будуць. Нават калі не стане нас, людзей.

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Чыгуначныя спадзяванні



Нічога не ліквідуем. Разважаем, як скарацiць выдаткі на лініях, дзе няма руху або ён мінімальны і даходы ад перавозчыкаў пакрываюць толькі частку выдаткаў, — такія запэўненні выказаў у Беластоку падчас сустрэчы з мясцовымі, нешматлікімі самаўрадаўцамі Рэмігіюш Пашкевіч, старшыня акцыянернага таварыства „ПКП. Польскія чыгуначныя лініі”. Гаворка ішла аб будучыні чыгуначных ліній у Падляшскім ваяводстве. Да ідэі сустрэчы з кіраўніцтвам польскай чыгункі, а таксама міністэрства транспарту, неаднаразова прымерваўся падляшскі віцэ-маршалак Валянцін Карыцкі. Нарэшце гэта ўдалося, але, мяркуючы па эфектах перамоў, не цалкам. Не з'явіўся абвяшчаны намеснік міністра транспарту Анджэй Масель, таму што „ў апошнюю хвіліну яго спынілі больш важныя абавязкі”. Трывожная інфармацыя была перададзена старшынёй Пашкевічам: „Падляшша не падпісала пагаднення аб чыгуначных праектах у рамках Рэгіянальнай аператыўнай праграмы”. Дадаў, аднак, што з 2014 года будзе магчыма рэвіталізацыя чыгуначнага шляху на маршрутах Беласток — Чаромха і Саколка — Сувалкі.

Веслаў Каменскі з Маршалоўскай управы Падляшскага ваяводства пералічыў „ключавыя чыгуначныя праекты патрабаваныя для рэалізацыі ў 2014-2020 гадах”, значыць у новай еўрасаюзнай бюджэтнай перспектыве. У ліку сямі такіх праектаў апынуліся абнаўленні шляхоў Беласток — Чаромха (неабходна 220 мільёнаў злотых), Беласток — Кузніца-Беластоцкая (245 млн. зл.), Саколка — Сувалкі (99 млн. зл.) і шырокакалейнага шляху Кузніца — Саколка (70 млн. зл.).

Старшыня Пашкевіч даў ацэнку:

— Гэта прыклады добрых задум.

А як будзе з грашыма для іх выканання?

Веслаў Каменскі:

— Фінансаванне гэтых праектаў з'яўляецца адкрытым.

Старшыня акцыянернага таварыства „ПКП. Польскія чыгуначныя лініі” загадкава сказаў:

— Мы чакаем грошай з нейкай пулькі, прызначанай на чыгунку.

Уладзімір Пятрочук, гайнаўскі стараста ў размове з журналістамі сказаў:

— На карце галоўных ліній, якія павінны быць выключаны з эксплуатацыі ў цяперашні час, няма лініі ў Гайнаўскім павеце. Ёсць толькі лінія, якая вядзе да паліўной базы: Барначчына, Аскеркі, Заблотчына. Гэта спроба прымусіць фірму, якая кіруе базай, каб узяла чыгуначную лінію ў сваю эксплуатацыю, таму што толькі яна ёю карыстаецца. Самае важнае, каб расклад язды быў дастасаваны да патрэб людзей. Парадокс заключаецца ў тым, што цягнік прыязджае з Варшавы ці Седльцаў у Чаромху вечарам, а потым няма ніякай сувязі з Гайнаўкай.

І пажартаваў:

— Можа хтосьці будзе інвеставаць у гатэль у Чаромсе, каб гайнаўяне маглі пачакаць да раніцы, таму што першы цягнік адпраўляецца ў Гайнаўку ў сем раніцы?

Пры нагодзе стараста спаслаўся на ліквідаваны маршрут Высока-Літоўск — Чаромха.

— Гэтая лінія павінна функцыянаваць у якасці міжнароднага спалучэння і фінансавацца з дзяржаўнага бюджэту. Можа стаць яна прыбытковай, але тады, калі будзе запушчаны малы памежны рух паміж Польшчай і Беларуссю. На жаль, у нашым бюджэце мы не маем грошай, каб аднавіць курсіраванне турыстычных цягнікоў на шляху Гайнаўка — Белавежа. Аднак, існуе магчымасць пусціць цягнік у выходныя дні, каб турысты ў нядзелю пасля поўдня маглі вярнуцца з Белавежы ў Варшаву.

Ежы Сірак, бурмістр Гайнаўкі адзначыў:

— У канчатковым рахунку ўсё павінна быць зроблена, каб па крайняй меры на працягу выходных паклапаціцца аб прамых чыгуначных зносінах паміж Варшавай і Седльцамі — Чаромхай — Гайнаўкай — Белавежай. На ўсіх міжнародных турыстычных кірмашах сутыкаемся з пытаннем аб тым, якія існуюць магчымасці дабрацца чыгункай у Белавежскую пушчу. На жаль, сёння няма такой магчымасці.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Бельск-Падляшскі — горад з тысячагадовай гісторыяй, адзін з найважнейшых гарадоў Падляшша ў межах І Рэчы Паспалітай і важны асяродак у пазнейшым перыядзе. Хаця гісторыя Бельска даследуецца здаўна і публікаваліся многія матэрыялы аб мінулым Бельшчыны, то прабелы ў даследаванні гісторыі горада так вялікія, што засталося яшчэ многа працы як для прафесійных гісторыкаў, так і для аматараў, да якіх належыць Людміла Антыховіч-Валынец. Яна — аўтарка кніжкі «Антыховічы з Бельска-Падляшскага. Успаміны, радаводы ды крыніцы да гісторыі беларускага мяшчанскага роду», якую пад рэдакцыяй Дарафея Фіёніка выдала аб'яднанне «Музей малой айчыны ў Студзіводах».



Да выдання кнігі спрычыніліся ў галоўным (злева) Дарафей Фіёнік, Людміла Антыховіч-Валынец і Арсень Артысевіч

# Гісторыя беларускага мяшчанскага роду Антыховічаў з Бельска-Падляшскага

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Змешчаны там таксама матэрыялы і здымкі, сабраныя бяльшчанамі. Прэзентацыя кніжкі адбылася 10 сакавіка ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, які разам са Студзіводскім музеем быў суарганізатарам мерапрыемства.

Прэзентацыю кніжкі можна таксама назваць з'ездам роду Антыховічаў. На другім паверсе белліцэя сабралася вялікая колькасць прадстаўнікоў гэтага беларускага мяшчанскага роду, іх сябры, сімпатыкі і запрошаныя госці. З бяльшчанамі і прыезджымі спаткаліся аўтарка кнігі Людміла Антыховіч-Валынец, рэдактар выдання Дарафей Фіёнік і Арсень Артысевіч — складальнік генеалагічнай табліцы роду Антыховічаў.

Гасцей, сярод якіх былі настаяцель Прачысценскага праваслаўнага прыхода ў Бельску протаіерэй Георгій Багацэвіч, былы дырэктар белліцэя Аляксей Карпюк, былы дырэктар Бельскага дома культуры Сяргей Лукашук, дырэктар бельскай «тройкі» Яўгенія Васілюк, віцэ-старшыня Звязу беларускай моладзі Ігар Лукашук і прадстаўнікі Брацтва трох віленскіх мучанікаў з Мінска — Лідзія Кулажанка, Юрый Чарнякевіч і Канстанцін Антановіч, прывітаў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк.

— Мы прадаўжаем супрацоўніцтва з Музеем малой айчыны ў Студзіводах і рады, што сёння так многа людзей сабралася на прэзентацыі кніжкі і заадно на з'ездзе роду Антыховічаў. Не было б спаткання, калі б не стваральнік музея Дарафей Фіёнік, які паказвае нам, што мы — людзі і ёсць у нас свая гісторыя, — сказаў дырэктар Андрэй Сцепанюк, адкрываючы мерапрыемства.

Протаіерэй Георгій Багацэвіч дадаў, што гісторыя вельмі высока ацэніць Дарафея Фіёніка. Бельскія белліцэісты ў пачатку сустрэчы запрэзентавалі здымкі і фрагменты нававыдадзенай кніжкі. Пасля вяліся размовы.

— Я вельмі рада, калі бачу вас тут сабраных, бо не думала, што аж столькі асоб прыйдзе на сустрэчу. Я хацела пакінуць памятку па сабе і як змагла, так прадставіла род Антыховічаў, якога прадстаўнікі жывуць у Маскве, Нью-Йорку, Варшаве, Кіеве, Сочы, Ніжнім Ноўгарадзе, Любліне, ці ў Швецыі. Збіраючы матэрыялы для кніжкі, я выконвала працу з пасіяй і рада, што асобы, якіх тычыцца гэтая кніжка, з павагай сталіся да мяне і ўдзячныя мне за апісанне роду Антыховічаў, — гаварыла Людміла Антыховіч-Валынец.



У Бельскім белліцэі сабраліся прадстаўнікі беларускага мяшчанскага роду Антыховічаў, іх сябры, сімпатыкі і запрошаныя госці. На першым плане (злева) настаяцель Прачысценскага праваслаўнага прыхода ў Бельску протаіерэй Георгій Багацэвіч, былы дырэктар белліцэя Аляксей Карпюк і дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк

Дваюрадная сястра аўтаркі Хрысціція Арлоўская з Бельска-Падляшскага, так як і многія іншыя сабраныя, вельмі высока ацаніла нававыдадзеную кніжку і пахваліла яе стваральнікаў за вялікую работу.

— Кожны чалавек гэта цэлы свет. Гісторыю кожнай сям'і можна назваць сусветам. З такіх сусветаў і складаецца людскі космас, неабсяжны і таямнічы. На нашым маленькім панадворку гісторыя і традыцыя кожнай мясцовасці складаецца з яе звенняў — родаў і сем'яў, — напісаў ва ўступе да кніжкі Дарафей Фіёнік. — Маё зацікаўленне сямейнай гісторыяй Антыховічаў пачалося з паловіны 1990-х гадоў, калі вывучаў я сямейны архіў роду Івана Антыховіча, які збярогся, дзякуючы яго нашчадку Паўлу Чарвацкаму (гэтыя матэрыялы былі выкарыстаны ў трэцяй частцы кніжкі — А. М.). Архіў налічвае больш за 120 арыгінальных дакументаў, ахопліваючых 1760-1950 гады. За гэтыя дзвесце гадоў Антыховічы са скромных рамеснікаў-гарбароў ды земляробаў сталі аднымі з багацейшых і грамадска больш актыўных мяшчанскіх родаў у Бельску.

Спачатку род Антыховічаў жыў па вуліцы Дубічы, а пасля яго прадстаўнікі сталі займаць штораз то новыя маёмасці ў цэнтры горада, а таксама былі ўласнікамі маёмасцей па-за горадам. У XIX стагоддзі Антыховічы належалі да гарадской эліты, а іх актыўнасць добра паказана ў трэцяй частцы кніжкі, на копіях рукапісаў. Аднак асноўная частка кніжкі гэта аповесць Людмілы Антыховіч-Валынец пра род Антыховічаў. Змешчана яна ў першай і другой частках выдання і папоўнена шматлікімі здымкамі.

— Да выдання кніжкі мы даходзілі доўга, бо звыш дзесяці гадоў. Варта было так доўга займацца родам Антыховічаў, каб Бельск атрымаў першую такую аповесць пра беларускі мяшчанскі род, — лічыць Дарафей Фіёнік.

Чацвёртую частку кніжкі састаўляюць генеалагічныя табліцы роду Антыховічаў. Аўтар гэтай часткі Арсень Артысевіч сямейна звязаны з родам Антыховічаў, так як і рэдактар кнігі Дарафей Фіёнік. Арсень Артысевіч збіраў матэрыялы ў дзяржаўных і прыхадскіх архівах, запісваў інфармацыю ад людзей і камплектаваў матэрыялы з выкарыстаннем сучасных электронных тэхналогій. Цяпер жыве ён па вуліцы Дубічы ў Бельску, непадалёк родавых сядзіб Антыховічаў. Многіх прадстаўнікоў роду Антыховічаў ведае ён асабіста. У гэтай частцы выдання асобы звязаныя з родам Антыховічаў могуць знайсці свае сямейныя сувязі з памечанымі ў кніжцы асобамі.

— Прэзентаваныя генеалагічныя табліцы гэта рэзультат маёй шасцігадовай працы. У кніжцы змешчаны асобы, якія належаць да дзевяці пакаленняў, што жылі на працягу трох стагоддзяў. Пачынаючы ад Паўла Антыховіча, змешчаны каля 1500 імён і прозвішчаў, — заявіў Арсень Артысевіч.

— Беларуская шляхта, якая перайшла на ўніяцтва, пасля паланізавалася, а нашыя мяшчане, прывязаныя да нашай традыцыі, былі прапагандыстамі нашай культуры і асветы, — лічыць рэдактар Дарафей Фіёнік. — Покі будзем успамінаць памерлых, яны будуць з намі. Кніга пра род Антыховічаў каштоўная для гісторыкаў і дэмографаў, але для нас, падляшскіх беларусаў, гэта першая манаграфія, якая так глыбока і ўсебакова паказвае жыццё бельскіх мяшчан. Хаця робота над выданнем кніжкі была калектыўнай, гэта аўтарка асноўнай яе часткі спадарыня Людміла натхніла нас да стварэння кніжкі.

Людміла Антыховіч-Валынец нарадзілася ў 1932 годзе ў Бельску-Падляшскім і тут выхоўвалася. З 1947 года жыве ў вёсцы Русіно, каля Баранавіч, дзе шмат часу была дырэктарам школы і займалася грамадскай дзейнасцю. Была яна таксама ініцыятарам і арганізатарам будовы Прачысценскай праваслаўнай царквы ў гэтым сяле, якая яшчэ не закончана, але служацца ўжо там літургіі. Людміла Антыховіч збірала матэрыялы для кніжкі каля 30 гадоў і зацікавіла сваёй работай бяльшчан.

— Зараз Бельск-Падляшскі — новы горад. Раней я з асаблівым сентыментам глядзела на вуліцу Дубічы, калі дарога была там яшчэ брукаваная. Калі я стала прыязджаць у Бельск, і Замковая вуліца была вельмі падобнай да той з мінулага. Але пасля ўсё памянялася. Мне асабліва запамятаўся стары рынак з ратушшу, якая захавалася. Усё, што памятаем з дзяцінства, нам вельмі дарагое. Мне таксама вельмі дарагія тыя родныя прасторы, да якіх я вельмі ахвотна вяртаюся, — сказала Людміла Антыховіч-Валынец.

Сабраныя былі рады канцэрту калектыву «Магдаліна» з Кобрына, пасля якога быў запуставы пачастунак.

— У нашай моладзі ёсць магчымасць пазнаёміцца з гісторыяй Бельска і Бельскай зямлі. Часам вучні не разумеюць, што нам не трэба шукаць герояў выключна ў гісторыі Польшчы. Нашая гісторыя беларуска-руска праваслаўная звязаная з самым Бельскам, старажытным горадам, які адыгрывае значную ролю ў гісторыі. Няхай вучні шукаюць у сваіх сем'ях тое, чым можна ганарыцца, бо нам, беларусам, якраз гэтага не хапае, — заявіў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк.

## Panem et circenses

Panem et circenses — хлеба і гульняў, гэтага, паводле старажытнарымскага паэта Ювеналія, дамагаўся плебс ягонага часу ад уладароў. Дзеля задавальнення гэтага патрабавання ўладары ладзілі крывавыя бойкі гладыятараў. Такі быў тады народ, што не ганьбаваў насалодай такой бойні, бо ж на тадышнія крывавыя цыркавыя арэны выводзілі не іхніх, рымлян, пабрацімаў, толькі чужародных нявольнікаў.

Лацінская Біблія Вульгата: Quod fuit, ipsum est, quod futurum est. Quod factum est, ipsum est, quod faciendum est: nihil sub sole novum — што было, гэта тое што быць мае. Што цяпер адбываецца, гэта тое, што будзе адбывацца: і няма нічога новага пад сонцам. Не новае пад сонцам і жаданне хлеба з гульнямі. Хлеба то мы ўсе адкрыта жадаем, нават на гэтых вось, ніўскіх, старонках, пасылаючы стрэл у напрамку Туска, бо акурат ён цяпер пад прыцэлам; змяніцца фігура на прыцэле — па ёй пусцім агонь.

А што з гульнямі? А і гульні маем. У царскі час гладыятарамі былі розныя мяцежнікі і іншыя іншапляменныя ворагі. У савецкі час таксама былі „ворагі народа", якія — хай сабе і супляменнікі — аднак жа яны прадстаўлялі „чужародныя" інтарэсы, напрыклад, беларускія. У цяперашні час homo sovieticus — а гэты тэрмін ахоплівае не толькі, як здавалася б, адно карыстальнікаў, але і дылераў гэтакай духовай стравы — таксама захапляюцца гульнямі ў змаганне з „чужароднай" агентурай, якія пастаўляюць ім любімыя правадыры...

Гэта за Свіслаччу. А што з нашага боку Свіслачы, на Беласточчыне? Тут ужо не лацінская, толькі польскамоўная прастора, дзе гульні могуць ладзіцца паводле правіла: Kowalski ukradł Nowakowi rower i OBAJ są zamieszani w kradzież roweru. Гэта такая гульня вельмі дапытлівых следчых з Яўгенам Чыквіным...

Але каб толькі з ім адным. Не. Іншыя следчыя праводзяць эксгумацыю даўно пакойнага з рук „патрыятычнага" падполля беларускага настаўніка Аляксандра Валкавыцкага з Нараўкі. На яго чапляюць кляймо „ворага народа" — як жа добра вядомае, але толькі „там"; „тут" жа ўсё адбываецца паводле „цывілізаваных" стандартаў. Ярлык гэты, на Валкавыцкага, навешваецца на аснове нейкага даносу. Можна было б таго даносчыка супаставіць з Паўлікам Марозавым, толькі Паўлік данёс *праўду*, а наконт нараўчанскіх вестак *цвёрдых* доказаў няма. Ёсць толькі падазрэнне, што ён быў нейкім беларускім, а павінен жа быў быць чыстакроўна польскім.

Міхась Шаховіч:

*Зямлю абдымаю вачыма,*
*Тулюсь да яе, як дзяўчыны.*
*Шапчу:*
*– Дарагая, скажы:*
*Чаму я жыву на мяжы?*

Плебс патрабуе гульняў і найлепш на арэну вывесці чужародных. Неістотнае, з якога яны боку Свіслачымяжы. А даносчык, як і несмяротны Ленін, жыў, жыве, і жыць будзе. Ён жа вельмі патрэбны для ладжання гульняў...

Што было, гэта тое што ёсць і што быць мае. Amen.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Спаборніцтва па беларускай мове

Ужо традыцыяй стала, што прадметныя конкурсы па беларускай мове для вучняў падставовых школ і гімназій адбываюцца ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Так было і ў гэтым годзе. Вучні бельскай «тройкі» часта састаўляюць вялікую частку, а то і пад палову фіналістаў, а пасля лаўрэатаў беларускамоўных конкурсаў. Маюць яны магчымасць змагацца з вучнямі іншых нашых школ у сваім школьным будынку або ў спартыўнай зале суседняга Бельскага белліцэя. Аднак справа тут не ў выгадзе бельскіх вучняў, а ў гасціннасці, пра якую дбаў былы дырэктар «тройкі» Васіль Ляшчынскі і дбае сённяшняя дырэктар Яўгенія Васілюк. Ваяводскія элімінацыі Прадметнага конкурсу па беларускай мове, арганізаванага для вучняў гімназій, адбыліся ў бельскай «тройцы» 8 сакавіка, у Міжнародны дзень жанчын (нагадаю, што вучні падставовых школ змагаліся за званне лаўрэата якраз у Міжнародны дзень роднай мовы).

і Адам Харкевіч з Гімназіі ў Нараўцы. Патрыцыя Міхальчук з бельскай «тройкі» дадала, што салідна рыхтуючыся да конкурсу па літаратуры і граматыцы можна было справіцца з тэстам.

— Тэст падрыхтаваны на ваяводскія элімінацыі мне падабаецца з-за яго разнароднасці і задач, якія вучаць гімназістаў чытаць тэксты са зразуменнем і лагічна думаць, адказваючы на пытанні. Гімназістам трэба было ж інтэрпрэтаваць паэтычныя творы і выкарыстаць шырэйшыя веды і ўмеласці па граматыцы. Конкурсны тэст згодны з матуральнымі патрабаваннямі, на якія мы ўжо звяртаем увагу ў час гімназічнай адукацыі, — сказала старшыня конкурснай камісіі, настаўніца беларускай мовы ў бельскай «тройцы» Валянціна Бабулевіч. — Узровень падрыхтоўкі вучняў да конкурсу нядрэнны і частка вучняў хутка справілася з тэстам, але, зразумела, здараліся памылкі і недахопы, нават у пераможцаў конкурсу. Хапала гімназістам часу на роздумы і праверку работ. Найболш клопатаў было ў вучняў у час перакладу тэксту аб школе з польскай мовы на беларускую. У некаторых выпадках вучні ўстаўлялі русізмы або паланізмы, рабілі памылкі таксама ў практыкаваннях наконт займеннікаў і парадкавых лічэбнікаў.



Гімназісткі з Гайнаўкі і Дубін



Гімназісткі з Гарадка, Чыжоў і Бельска

У ваяводскіх элімінацыях конкурсу прынялі ўдзел 42 гімназісты з 9 школ Падляшскага ваяводства. Удзельнікі конкурсу верылі, што набяруць за задачы ў тэсце адпаведную колькасць балаў і стануць лаўрэатамі прадметнага конкурсу. Гэта настолькі важнае, што пасля паспяховага завяршэння навукі ў гімназіі лаўрэаты будуць паступаць па-за конкурсам у выбраныя імі звышгімназічныя школы. Гімназісты найчасцей гаварылі, што выберуць далейшую адукацыю ў Гайнаўскім і Бельскім белліцэях (толькі двух хлопцаў намерваюцца працягваць вучобу ў тэхнікумах).

— Конкурс не быў цяжкі, але трэба было ўважліва адказваць на пытанні. Канешне, мы маглі зрабіць памылкі ў час перакладу з польскай мовы на беларускую або ў задачах па граматыцы, — сказалі Караліна Шэшка, Іаанна Андраюк і Беата Красько з Гімназіі ў Чыжах.

— Мы, рыхтуючыся да конкурсу, вучыліся па загадзя прапанаванай літаратуры і па граматыцы. Маглі зрабіць памылкі па парадкавых лічэбніках, ці займенніках. Думаем, што паспяхова справіліся з тэстам, — заявілі Мартына Ляшкевіч і Наталля Грыгарук з бельскай «тройкі».

Гімназісткі з Гарадка Магдалена Станкевіч і Патрыцыя Карлаў выявілі надзею, што паспяхова справіліся з задачамі па двух творах Петруся Броўкі «Калі ласка» і «Сляды». Вучням трэба было яшчэ змагацца з задачай аб жыцці і творчасці Янкі Купалы. Гімназісты гаварылі, што зацікавілі іх творы гэтага вялікага беларускага пісьменніка. Юліянна Падолец і Аляксандра Белаказовіч з бельскай «тройкі» гаварылі пра складанасці ў перакладзе тэксту на беларускую мову, на што звярталі таксама ўвагу іншыя вучні. У агульным гімназісты працавалі з тэкстамі і па задачах, у якіх правяраліся ўмеласці па граматыцы.

— Рыхтуючы гімназістаў да конкурсу па беларускай мове, мы займаемся па тэкстах, прапанаваных да разгляду ў час падрыхтоўкі да розных этапаў конкурсу. Працуем таксама па граматыцы. Сёлета прапанавалася займацца па лічэбніках і займенніках і дзве задачы на гэтыя тэмы былі ў тэсце. Да конкрсу прыступаюць самыя лепшыя вучні і таму толькі замацоўваем матэрыял па арфаграфіі, па якой працуем раней, — сказала метадыст па навучанню беларускай мовы і задно настаўніца беларускай мовы ў гайнаўскіх белліцэі і белгімназіі Іаланта Грыгарук.

— Рыхтуючыся да конкурсу, мы працавалі па розных падручніках для гімназіі, па «Хрэстаматыі», а нават па гістарычнай ужо граматыцы Міколы Гайдука. Гімназісты ахвотна вучыліся, бо хацелі стаць лаўрэатамі, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў Гімназіі ў Дубінах Ніна Куптэль.

Лаўрэаты прадметных конкурсаў у сваіх школах атрымліваюць у канцы навучальнага года самыя высокія ацэнкі па беларускай мове — шасцёркі і часта вартасныя ўзнагароды, а яшчэ раней атрымліваюць вылучэнні ў час мерапрыемства арганізаванага Куратарыяй у Беластоку.

— Мы, рыхтуючыся да конкурсу, сістэматычна вучыліся ў школе і многа працавалі дома, бо хочам стаць лаўрэатамі і паступіць у Гайнаўскі белліцэй, — заявілі Эвеліна Паскробка з Гімназіі ў Дубінах і Магдалена Сакалоўская з Гайнаўскай белгімназіі, якая раней вучылася ў Падставовай школе ў Дубінах.

— Не было цяжка справіцца з тэстам, але апасаемся памылак, асабліва ў перакладзе і ў задачах па граматыцы. Аднак прынамсі спраўдзім свае ўмеласці, — гаварылі іншыя гайнаўскія белгімназісткі Агнешка Гацута, Каміля Цэтра і Наталля Тарасюк. Белгімназістка Агнешка Ходак асабліва апасалася, ці справілася з задачай па парадкавых лічэбніках. Настаўніца гайнаўскіх белгімназістак Анна Каліноўская заявіла, што апасаецца звычайных памылак, якія маглі зрабіць яе вучні і якія маглі панізіць агульную ацэнку тэстаў.

— Часу было ўдоваль, можна было спакойна аналізаваць пытанні да задач і правяраць напісанае. Рыхтуючыся да ваяводскіх элімінацый, мы звярталі ўвагу на творы Янкі Купалы і Петруся Броўкі, што і было ў тэсце. Добра, што можна прыехаць на конкурс і праверыць свае ўмеласці па беларускай мове, якая нам родная, бо ж і бацькі нашыя на ёй размаўляюць, — сказалі Лукаш Марчук

Сярод удзельнікаў ваяводскіх элімінацыяў выдатную большасць састаўлялі дзяўчаты, якія Дзень жанчын адзначылі ўдзелам у прадметным конкурсе па роднай мове.

— 8 сакавіка хлопцы яшчэ віншуюць нас з Днём жанчын і ў нашых сем'ях адзначаецца гэты дзень, — сказалі гайнаўскія белгімназісткі.

Пасля праверкі конкурсных прац аказалася, што найболш балаў набрала Наталля Васько з Гімназіі ў Нараўцы, бо ажно 64 балы, на магчымых да здабыцця 66 балаў. На другім месцы з 62 баламі апынуліся Дар'я Вапа і Аляксандра Конюх з Гімназіі № 7 у Беластоку і Каміль Сцепанюк з бельскай «тройкі», а 61 бал набрала і можна сказаць, што заняла трэцяе месца, Агнешка Гацута з Гайнаўскай белгімназіі.

— Ажно 36 гімназістаў сталі лаўрэатамі конкурсу і пры гэтым сталі імі вучні ад усіх 9 школ, ад якіх прадстаўнікі дайшлі да ваяводскіх элімінацый. Больш за 90% магчымых да здабыцця балаў набралі яшчэ Каміля Цэтра з Гайнаўскай белгімназіі, Юстына Якубюк і Патрыцыя Міхальчук з бельскай «тройкі». Лаўрэатамі сталі 14 гімназістаў з бельскай «тройкі», 6 вучняў з Гімназіі ў Нараўцы, 5 асоб з Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы і 3 вучні з Гімназіі № 7 у Беластоку, — удакладніла настаўніца Валянціна Бабулевіч.

Прадметны конкурс па беларускай мове гэта таксама добрая нагода да самарэалізацыі для больш здольных вучняў. Іншыя вучні адчуваюць вялікае задавальненне ў час дэкламацыі па-беларуску, тэатральных выступленняў, ахвотна прымаюць удзел у «Беларускай гавэндзе», спяваюць па-беларуску. І гэта таксама самарэалізацыя з ухілам на роднае.



# Беларусы ў глабалізацыі

**Інтэрв'ю з Тацянай Арцімовіч, тэатральным крытыкам з Мінска, рэдактаркай культавага часопіса „pARTisan", удзельніцай закончанага 10 сакавіка семінара ў Любліне на тэму „Культура для Усходняга партнёрства".**

**„Ніва": — Якая была роля часопіса „pARTisan" на працягу апошніх дзесяці гадоў з моманту яго стварэння ў культурным і сацыяльным жыцці Беларусі?**

Тацяна Арцімовіч: — Я лічу, што гэта з'ява яшчэ не цалкам вывучаная і будзе толькі да наступнага дзесяцігоддзя. Калі „pARTisan" пачаў выходзіць, на самой справе гэта была фактычна адзіная ў Беларусі пляцоўка для дыскусіі аб сучасным мастацтве. Тэмы аўтараў, якія пісалі ў альманах „pARTisan": Валянціна Акудовіча, Сяргея Дубаўца або Сяргея Харэўскага, матэрыялы аб ціхім партызанскім руху, працы Сяргея Шабохіна, работы Алеся Пушкіна былі вельмі крытычна настаўленыя. Інфармацыю аб новым сучасным мастацтве можна было знайсці толькі тут. Прадстаўнікі ўсяго незалежнага, сучаснага мастацтва публікаваліся ў альманаху „pARTisan". Гэтыя крытычная фігуры гучалі ў дыскусіі ў 2000 годзе, але ў выніку кончыліся нейкім дзікім ступарам. Ужо забыліся, што „pARTisan" стварaў адзіную дыскусійную прастору ў свеце мастацтва Беларусі. Гэтая ўнікальная інфармацыя для тых навукоўцаў, якія будуць мець справу з гісторыяй мастацтва ў Беларусі за гэты перыяд. Цяпер некаторыя старэйшыя тэксты пачынаюць з'яўляцца ў інтэрнэце, наступае архівізацыя часопіса. Мне здаецца, што на працягу гэтых дзесяці гадоў „pARTisan" сталі лепш ведаць і цаніць за межамі Беларусі. На жаль.

**— Вы сказалі на семінары ў Любліне, што „pARTisan" павінен знайсці сваё месца ў сусветнай прасторы, у якую ўваходзіць Беларусь. Што гэта значыць?**

— Гэтае пытанне будзе прадметам абмеркавання ў наступным нумары, спасылаючыся на абмеркаванне першага пытання пад дэвізам „Зроблена ў Беларусі", дзе Юрась Барысевіч, Артур Клінаў, Валянцін Акудовіч разважаюць чым з'яўляецца канцэпцыя часопіса „pARTisan", фармулююць стратэгію. Пасля дзесяці гадоў у галерэі „Ў" мы зрабілі аналагічнае абмеркаванне. Там будзе таксама інтэрв'ю з Валянцінам Акудовічам, які цяпер знаходзіцца ў нерашучасці. Ён кажа, што не разумее, з кім мы на самой справе ваюем. Тады сучаснае мастацтва: мастакі-тэарэтыкі і практыкі былі ў процівагу афіцыйнай плыні. Мастацтва з'яўлялася адной з форм такой грамадскай апазіцыі да цяперашняй тэндэнцыі ў асноўным. Сёння сучаснае мастацтва пачынае павольна ўваходзіць у афіцыйную культуру і ўжо недастаткова паказваць толькі сучаснае мастацтва, якое ўключаецца ў афіцыйны кантэкст. Акрамя таго, у пачатку „pARTisan" кранаў праблемы сучаснай культуры ў вузкім сэнсе слова, у тым ліку нацыянальнай ідэнтычнасці. Сёння мастацтва і Беларусь уключаны ў глабальныя працэсы, хаця б праз інтэрнэт. Ставіцца пытанне аб тым, чаму ў апошні час так ясна чуецца пра моўныя праблемы ў Беларусі і чаму гэта дзеліць апазіцыю. Новае пакаленне думае інакш, якраз у глабальным маштабе. Для іх моўная праблема з'яўляецца лакальнай праблемай, а не такой як дваццаць гадоў таму. Гэта немагчыма, каб пазбегнуць праблем, звязаных з камп'ютарызацыяй, тэхналагізацыяй, якая непасрэдна адносіцца да аўтараў, нават у пытаннях, звязаных з законамі аб аўтарскіх правах. Альманах „pARTisan" павінен зразумець, хто супраць агульнага ворага, а не дзейнічаць на мясцовым узроўні, і зразумець хто супольны вораг, а не дзейнічаць лакальна, і разумець як далей супрацоўнічаць, як выяўленымі сродкамі. На дадзены момант у гэтай новай прасторы цяжка знайсці дакладную кропку адліку.

**— Для гэтага глабальнага свету, на Ваш погляд, беларусы, беларускія мастакі павінны падключыцца да беларускай мовы?**

— Каб быць у глабальнай прасторы, неабходна мець сваю асаблівасць, сваю тэматыку. У Беларусі ёсць шмат „тэм" з дапамогай якіх можна ўключыцца ў глабальную прастору. Таксама мова можа стаць ёю. Але я не адважылася б тут прымяніць слова „павінна". Закладвае гэта нейкія дыктатарскія намёкі. Што мае зрабіць маладое, таленавітае пакаленне, якое вырасла ў іншай прасторы, адменнай ад тае з 1990-х гадоў у Беларусі, для якога беларуская не з'яўляецца іх натуральнай мовай. Ці мае з'ехаць з Беларусі?

**— А беларуская мова ў Беларусі ў цяперашні час з'яўляецца праявай нацыянальнай ідэнтычнасці?**

— Гэта зноў жа звязана з глабалізацыяй. Для мяне мова з'яўляецца інструментам работы. І гэта не толькі руская або беларуская мовы. Калі я сутыкаюся ў працы з канкрэтнымі задачамі, заўсёды ў пачатку становіцца выбар мовы, на якой я працую. Гэта можа быць і англійская, і французская, і руская, і беларуская. Гэта для мяне ў першую чаргу сродак сувязі. Я, вядома, хачу, каб маё атачэнне ў Беларусі было больш беларускамоўнае, але, на жаль. Я лічу, што ў моўнай сітуацыі, якую маем, мы не павінны несці гэтак агрэсіўнай палітыкі, звязанай з беларушчынай у кантэксце мовы. Калі я гляджу на дыскусіі ў інтэрнэце, палохае мяне агрэсія супраць рускамоўнасці ў Беларусі, асабліва маладых людзей, якія будуюць абарончыя блокі і адмаўляюцца ад усяго рускамоўнага і абвінавачваюць рускамоўных, што яны не беларусы. Мне вельмі падабаецца дзейнасць у гэтай вобласці кампаніі „Будзьма беларусамі", якая не толькі па прычыне мовы лічыць людзей беларусамі. Файна, калі беларуская мова паяўляецца ў нармальнай, паўсядзённай прасторы, такой як вулічная рэклама на беларускай мове. Знікае тады страх перад беларускім нацыяналізмам.

**— Для беларусаў Беласточчыны, аднак, мова з'яўляецца асноўным фактарам, вызначальным для беларускай ідэнтычнасці і цяжка ім зразумець нежаданне, адлегласць да беларускай мовы ў Беларусі.**

— Вось менавіта: беларусы Беласточчыны „разумеюць". У нас гаворка пра дзяржаўную палітыку. Гэта жахліва, што яно зрабіла з беларускай мовай. Аўтобусы і трамваі на прыпынках аб'яўляюцца па-беларуску, выходзілі па-беларуску Караткевіч і Купала, чуецца беларуская мова на радыё і тэлебачанні. Але ўсё гэта — мёртвая мова. Працуе дзесьці на дзяржаўным узроўні, і беларусы лічаць, што яны гэта не дзяржава. Калі ўжо ў аўтобусе ці тралейбусе хтосьці просіць нешта па-беларуску, той хтось адразу пярдзёрне. Гэтыя дзве рэальнасці. „Там" гэта адвечнае, але паміж сабой па-беларуску? Зараз ставіцца пытанне аб тым, чаму вы гаворыце па-беларуску, мабыць, вы дысідэнт, ці проста філолаг? Найбольш важнай праблемай з'яўляецца тое, што няма ў Беларусі дзяржаўнай палітыкі ўключаючай праблематыку тоеснасці. Большасць беларусаў не ставіць пытання: „нет языка, нет меня?". У Польшчы мне размаўляецца па-беларуску камфортна, але пасля вяртання ў Беларусь, выступаючы на гэтай мове, я ўпадаю ў нейкую варожую прастору. Вядома, я кажу не пра кнігарню „Логвінаў" ці галерэю „Ў".

**— А ў тэатры як з мовай? Дзяржаве, здаецца, аднак залежыць, каб ставіць беларускіх аўтараў, прадстаўляць беларускамоўныя п'есы?**

— Гэта хітрая палітыка. Той факт, што людзі прыходзяць у тэатр імя Янкі Купалы і слухаюць пастаноўкі на беларускай мове, гэта не значыць, што тыя прадстаўленні сапраўдны перакладваюць у сваё жыццё, сваю ідэнтычнасць. Прыходзяць і глядзяць на нейкі „факт", які іх не кранае. Невыпадкова, што шмат з гэтых беларускамоўных п'ес гэта гістарычныя, не аб сучаснасці. Тут вы можаце ўбачыць праблему пры перакладах: як перавесці нейкую сучасную драму ў дачыненні да такой мовы, на якой гавораць штодзённа. Цяжка павераць са сцэны ў літаратурную беларускую мову, якой звычайна штодзённа не чуецца. І зноў жа, людзі, якія прыходзяць у тэатр, трымаюць дыстанцыю да беларускай мовы, ведаюць, што ніяк яна не звязана з іх ідэнтычнасцю. Існуе неабходнасць для абмеркавання пытання аб тым, як ствараць па-беларуску і ці тлумачыць беларускія драмы, каб яны былі блізкія беларускаму гледачу.

**— Чаму беларускія драматургі неахвотна прабуюць пісаць на беларускай мове?**

— Для іх мова з'яўляецца інструментам, тэхнікай, якую засвоілі, выхоўваючыся ў Беларусі, вучыўшыся ў Беларусі. Драматург хоча, каб яго ставілі ў Беларусі. На дадзены момант сітуацыя ёсць такая, што калі ў Расіі не скажуць, што, напрыклад, Павел Пражко ці Дзіма Багуслаўскі гэта добрыя драматургі, не атрымаюць яны нейкія прызы ў Расіі, то ў Беларусі іх няма.

**— Тады па чым я магу пазнаць у Еўропе беларуса, калі не па тым, што ён гаворыць на беларускай мове?**

— Калі якраз у альманаху „pARTisan" Акудовіч разважаў, ці ёсць нейкі твар беларускага мастацтва, было зададзена пытанне: а ці ёсць нейкі ў нямецкага або французскага? Гэта глабалізацыя развіваецца хутчэй і хутчэй. Малады беларус ездзіць у Францыю ці Нямеччыну, гаворыць на англійскай мове і ўжо нікога не турбуе, адкуль ён. У цяперашні час праблема заключаецца ў постнацыянальнасці. Мне цяжка адказаць на гэтае пытанне, гледзячы на гісторыю дыфузіі, якая праходзіла ў Беларусі з нацыянальнасцямі і мовамі. Вось так здарылася, што ў Беларусі існуем у дзвюх моўных прасторах. Ва ўсякім выпадку, як беларусы ў рэгіёне Беластока, толькі што не ў беларускай і рускай, а ў беларускай і польскай мовах.

**— Дзякую за размову.**

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

## «Вячэрні Брэст» у Седльцах



У Седльцы прыехала група журналістаў рэдакцыі «Вячэрні Брэст». Гэта рэгіянальны часопіс, які з 1991 года выходзіць два разы ў тыдзень. У склад дэлегацыі ўвайшлі Уладзімір Сяргеевіч Шпарло — галоўны рэдактар, Андрэй Віктаравіч Андрэеў, Андрэй Сямёнавіч Гусік, Анастасія Юр'еўна Харычкава, Таццяна Валянцінаўна Шаламова і Міхаіл Мікалаевіч Алейнік. Беларускія журналісты ў першую чаргу цікавіліся пытаннямі рэгіянальнага эканамічнага развіцця, культурнага супрацоўніцтва і магчымасцю актывацыі кантактаў палякаў і беларусаў. Як падкрэсліў Уладзімір Шпарло як Седльцы, Белая-Падляшская, так і Брэст распалажаны пры галоўным камунікацыйным шляху Еўропы. «Ненатуральным было б, калі б мы жылі пры транзітным маршруце, бліжэй не ведаючы адзін аднаго і не супрацоўнічаючы паміж сабою як суседзі. Мы хочам знаёміць нашых чытачоў не толькі з жыццём Брэсцкай вобласці і памежнымі пытаннямі. Мы таксама хацелі б стаць свайго роду мостам паміж нашымі народамі. У нас ёсць яшчэ вялікі эканамічны патэнцыял. Яго спалучэнне дало б новы імпульс развіццю нашых рэгіёнаў і павышэнню якасці жыцця», — падкрэсліў Уладзімір Шпарло.

Журналісты «Вячэрняга Брэста» прыехалі па запрашэнні рэдакцыі штотыднёвіка «Tygodnik Siedlecki». Галоўны рэдактар штотыднёвіка Кшыштаф Гарасімюк сказаў «Ніве», што на працягу многіх гадоў абедзве газеты маюць цесныя кантакты. Ён адзначыў, што гэта не толькі руцінныя дзеянні, вынікаючыя з гаспадарчай дзейнасці. «Гэта нават дружалюбнае садзеянне», — падкрэсліў ён. У той жа час нагадаў, што раней праводзіліся больш шырокамаштабныя ініцыятывы. «У канцы 1990-х гадоў рэалізаваўся сумесны праект з часопісам «Słowo Podlasia» пад назвай «Варшаўскі мост». Гэта быў тыповы рэкламны часопіс. На жаль, гэтае рэкламнае выданне не сустрэлася з адпаведным зацікаўленнем з боку патэнцыйных рэкламадаўцаў і было прыпынена. Аднак маем надзею, што эканамічныя ўмовы дазволяць аднавіць яго ў будучыні. З калегамі з Брэста мы гатовы падзяліцца ідэямі, праверанымі ў часопісе «Tygodnik Siedlecki», конкурсамі і кампаніямі акцыямі ў прэсе. Некалькі гадоў назад мы дапамагалі ім купіць офіснае электроннае абсталяванне. Нашы размовы датычаць, між іншым, арганізацыі працы рэдакцыі, вырашэнняў, якія мы ўвялі на нашым сайце, спосабаў атрымання рэкламы. Часам мы таксама абменьваемся рэдакцыйнымі тэкстамі», — сказаў Кшыштаф Гарасімюк.

Калі ўступіць у сілу дамова аб малым памежным руху, эканамічнае ажыўленне адчуе ўвесь рэгіён, а не толькі памежная зона. Нават сёння многія грамадзяне Беларусі, карыстаючыся шэнгенскімі візамі, прыязджаюць не толькі ў памежныя раёны, але і далей у глыб Польшчы і Еўропы. Для палякаў таксама Беларусь з'яўляецца прывабным гандлёвым партнёрам і нявыкарыстаным абшарам у галіне развіцця турызму. Ініцыятыва газет «Вячэрні Брэст» і «Tygodnik Siedlecki», несумненна, ідзе насустрач задавальненню сацыяльна-эканамічных патрэб. Гэта паказвае, наколькі добра могуць супрацоўнічаць беларусы і палякі, каб будаваць добрую атмасферу і знаходзіць новыя вырашэнні ў карысць развіцця рэгіёнаў на польска-беларускім памежжы.

**Адам БОБРЫК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Толькі ў сэрцы трывожна пачую...

Калі пераступім парог Гайнаўскага белліцэя, у вочы кінецца бел-чырвона-белы сцяжок. Беларускі сцяг уплецены ў мазаіку, што прыаздабляе актавую залу школы. Сярод насценгазет знойдзем таксама стэнд, прысвечаны стваральнікам Беларускай Народнай Рэспублікі (абвешчанай 25 сакавіка 1918 года). Але, як кажуць, нішто на свеце не заступіць жывой памяці і звычайнай любові да свабоды, прыроды і людзей...

Вось, ад сустрэчы ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы застаўся прыгожы ўспамін. Гэта па прычыне вучняў біялагічна-хімічнага класа, якія на канец сустрэчы гучна і кранальна, з памяці, ад пачатку да канца праспявалі „Пагоню”.

З патрыятычных песень вучні прапанавалі яшчэ „У гушчарах” Наталлі Арсенневай і „Песню пра сцяг” Сяргея Панізніка...

Такі багаты патрыятычны рэпертуар мусіў выклікаць пазітыўнае здзіўленне.

— Год таму мы рыхтавалі лінейку з нагоды 25 Сакавіка, — кажа Анна Каліноўская, настаўніца беларускай мовы, — і гэта засталося ўжо ў памяці, спадзяемся, што надоўга...

Усе мы ведаем гімн Польшчы, польскія нацыянальныя сімвалы: белчывоны сцяг і герб з арлом. З такой жа свабодай мы, беларусы, павінны ведаць таксама свае нацыянальныя сімвалы. Аднак, у беларусаў усё перабблытанае, неаднназначнае.






фота Ганны КАНДРАЦЮК

Цяжка назваць адзін гімн, які б задаволіў усіх прадстаўнікоў нацыі. Сучасны афіцыйны гімн РБ, які зацвердзіў Аляксандр Лукашэнка — гэта адна музыка, без слоў. Яго не прызнаюць многія грамадзяне краіны і беларусы замежжа. Усе ўрачыстасці і лінейкі з нагоды 25 Сакавіка пачынаюцца гімнам БНР „Мы выйдзем шчыльнымі радамі” на словы Макара Краўцова. Гэты гімн, як і незалежная сімволіка, забаронены ў сучаснай Беларусі. Доўгія гады беларусы Беласточчыны таксама не маглі карыстацца незалежнай сімволікай. Усё змянілася пасля 1989 года. Бел-чырвона-белы сцяг, герб „Пагоня” і патрыятычныя песні перартрывалі дзякуючы беларускай эміграцыі ў ЗША, Еўропе, Аўстраліі.

Неўзабаве 25 Сакавіка. У школах і ў сяброўскіх кругах будзем адзначаць Дзень Волі. Гэты дзень заўсёды спалучаецца мне з вясной. Магчыма таму, што нашыя прашчуры-славяне ў гэты дзень святкавалі Новы год. У такі дзень чалавек спадзяецца на добрыя перамены прыроды і лёсу. На жаль, гэтае радаснае свята з бел-чырвона-белымі сцягамі забароненае ў Беларусі. Але мы самі можам спрычыніцца да ўмацавання нацыянальных сімвалаў і памяці пра людзей, якія змагаліся за волю і культуру беларусаў. Як гэта зрабіць? Звычайна. Напрыклад, развучыць „Пагоню” і заспяваць з моцай і любоўю — як гайнаўскія ліцэісты.

ЗОРКА



Адам Харкевіч (другі злева)

Адам ХАРКЕВІЧ

## Мая родная мясціна

*У нашай краіне*
*У Нараўчанскай гміне*
*Ёсць такая мясціна,*
*Дзе шуміць хваіна,*
*На палях і лугах*
*Людзі жнуць і косяць,*
*А пры хатах на панадворках*
*Пчолы мёд носяць.*
*На канцы той вёскі*
*Царкоўка скромная малая,*
*Але майму сэрцу*
*Вельмі дарагая.*
*Гэта мясціна*
*Нова Лука завецца,*
*Хто сюды прыедзе*
*Тут назаўжды і астанецца.*

**Адам Харкевіч** жыве ў наймалодшай падляшскай мясціне — Новай Луцэ. Тут чароўная даліна Нарвы і Семяноўскае возера. Гэта месца знятае ў культавым фільме „Хронікі Нарніі”, разам з найпрыгажэйшымі месцамі на Зямлі. Для беларусаў гэтае месца важнае таксама з-за літаратурных традыцый. У недалёкіх Бандарах нарадзіліся літаратары Алесь Барскі і Васіль Баршчэўскі, адсюль родам вядомы беларускі літаратуразнавец Уладзімір Казбярук, з Рыбакоў паэт Хведар Хлябіч, а з Юшкавага Груда паэт Алексы Казбярук (апошні піша на польскай мове). У недалёкім Тарнопалі жыў паэт-селянін Уладзімір Гайдук. Словам — тут паэтычная зямля.

Дэбют Адама Харкевіча прыпаў на час, калі вясной, непадалёк яго вёскі, адбываліся Сустрэчы „Зоркі”. Гэта мела свой поваб, бо ж сама прырода расцвіла і натхняла да творчай працы. Зразумела, калі мы аб’явілі пра творчы дэбют нашага сябра, усе сустрэчнікі захацелі пачуць яго твор і ўзяць аўтограф на памятку. Прыклад Адама падзейнічаў як інспірацыя. Мы з недаверам глядзелі, як падрыхтоўка беларускай газеты зацьміла сусветны футбол у тэлебачанні. Навейшы верш Адама друкуем пад Дзень Волі — 25 Сакавіка, бо ў ім захапленне роднай вёскай, духовасць і здаровы патрыятызм.

**Зорка**

## Загадка № 12-13

*Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 31 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.*

**Ён заўсёды нас бароніць,**
**Ён заўжды на вышыні,**
**І таму наш герб — „П...” —**
**Рыцар з мечам на кані.**
***(С. Сокалаў-Воюш)***

*Адказ на загадку № 8-13: Грыб. Узнагароду — „Смяшынкі” Віктара Шведа — выйграла **Наталля Васько** з Нараўкі. Віншуем!*

# Лоша, Манюшка і Нёман

Мала хто ведае ў нас, што Станіслаў Манюшка, бацька польскай оперы, нарадзіўся ў Беларусі, дакладна ў маёнтку Убель, што на Уздзеншчыне. Гэтае месца лёгка запамятаць з-за адной справы — тут выплываюць магутны Нёман і рака Лоша. Манюшка натхняўся беларускімі песнямі і прыродай, у многіх яго песнях адчуваецца прысутнасць Нёмана. Вось у славутай песні „Праснічка” маем такі радок: *Poszedł do Królewca młodzieniec z wiciną*. Тыя, што цікавяцца гісторыяй і геаграфіяй ведаюць, што славуты Каралявец, гэта сённяшні расейскі горад Калінінград.

У пачатку XIX стагоддзя горад быў сусветным гандлёвым цэнтрам і акном на свет. Жыхары ВКЛ „хадзілі” ў Каралявец па Нёмане, што на сённяшняй мове абазначае: плылі на караблях, якія называлі віцінамі. Такі шлях абраў і наш закаханы маладзён з „Праснічкі”.

У вёсцы, дзе нарадзіўся Станіслаў Манюшка, людзі расказваюць такую легенду:

— Гэта было даўным-даўно, калі на зямлі жылі асілкі. І вось, пад вялікім каменем, з-пад якога б'е крыніца, нарадзіўся асілак Нёман. Ён быў стройны і працавіты, дапамагаў звярам, лясам і палям ды ўсім жывым істотам. З часам ён прыкмеціў ў суседстве прыгажуню Лошу. Яна ўвесь час ляжала ў цяньку і любавалася сама сабою. Нікому не было ад яе радасці ні карысці. І вось, на сваё няшчасце, Нёман закахаўся ў гультайку. Сваякі папракалі яго ў выбары, але ж, вядома, у закаханых свой розум, або, як кажуць злаcлівцы, таго розуму зусім няма! На вяселлі гуляла ўся радня хлопца: рэчкі Сула, Вуса, Уздзянка, Шчара. Пілі, балявалі, маладым шчасця і долі жадалі. Пасля трэба было жыць, працаваць. З рання да ночы Нёман паіў і карміў звяроў, птушак, рыб, лясы і лугі, насіў на сваёй спіне караблі, плыты і віціны. Нярaз запрашаў сваю жонку, каб тая дапамагла. Але Лоша не хацела працаваць. Яна як і раней ляжала ў цяньку і захаплялася сабою. Надакучала Нёману жыць у такой кампаніі. Аднойчы, цёмнай ноччу, ён кінуўся напрасткі, дзе вочы глядзелі, каб далей ад лянівай жонкі. Спачатку стараўся замесці след, то пад поплавам прабяжыць, то дзеля перадыху тоняй вынырае, азярцом, а пасля зноў схаваецца. І толькі там, дзе цяпер вёска Забалацце, асілак да мора проста пабег. Прачнулася Лоша і пачала даганяць мужа. Ды не ў той бок кінулася. Па далінах, па нізінах бегла. Ажно сіл не хапіла. Стала яна гукаць на дапамогу сябровак: Пціч, Бярэзіну, Свіслач. І толькі адна Вяя пачула яе голас, паспачувала ў горы. Выбеглі яны дзве на пясчаны груд і бачаць: прарваўся Нёман праз лясы і долы, сам сабе дарогу пракладае. Кінулася ў слязах Лоша ў бок каханага, прабачэння прасіць. Сама яна не здолее прважыць, знікне ў лета. Нёман паспачуваў шлюбнай гультайцы. Праўда, ён пабег сваёй дарогай, аднак раз у год, на вясну, вяртаецца да крынічкі, дзе было іх вяселле, дзе была іх маладасць, каб сустрэцца з Лошай.

**ЗОРКА**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Музыка з кайфам

## Браты з Малдовы



Няшчасных краін у свеце многа. Нягледзячы на тое, людзі павінны ведаць, што працаваць над няшчасным лёсам можна і трэба. Людзей, якія гэта разумеюць і такіх, якім варта гэта тлумачыць, сустрэла я ў час свайго кароткага, але плённага падарожжа ў Малдову, краіну завешаную паміж Румыніяй і Украінай...

Хаця Малдова — рамантычная краіна віна, людзі там у сэнсе эканамічным, грамадскім і культурным жывуць у складаных абставінах. Я трапіла туды ў пошуках культурных кантактаў і сустрэла сапраўды адкрытых людзей, якія ладзяць фестывалі класічнай ды этнаджазавай музыкі. І хаця, як усюды, грошай не хапае — не здаюцца. Малдова гэта краіна, якая не мае сваёй мовы, большасць яе жыхароў гаворыць на румынскай мове. Усё ж такі грамадства гэтай краіны адчувае сябе народам і правa на гэта нельга ім адмаўляць. Маюць яны сваю народную музыку, танцы, касцюмы, народную кухню і вялікі патэнцыял. З ліку экспартнага культурнага дабра мне прыйшлося пазнаёміцца з самым вялікім кампазітарам Малдовы — Яўгенам Догам (Eugen Doga). Мая гутарка з ім пачалася з размовы на тэму яго роднай краіны. Сам ён ад многіх гадоў пражывае ў Маскве, але бязмоўна клапоціцца пра лёс Малдовы. На пытанне, як бачыць яе будучыню, адказаў: «Спачатку людзі павінны палюбіць самі сябе і пачаць верыць у свае магчымасці». Цяжка з ім не згадзіцца, але гэта павінны перш за ўсё пачуць усе маладыя людзі, з якімі мне прыйшлося размаўляць, а якія не разумеюць, што лёс краіны, безумоўна, у іх руках. Калі мы пачалі гутарыць з маэстра наконт музыкі, гісторыі і культуры, сказаў ён, што яго продкі нарадзіліся і пахаваны на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Гэта прывяло нас да размоў наконт сапраўднага культурнага адзінства на тэрыторыі Усходняй Еўропы. Дадам яшчэ, што маэстра вядомы як выдатны кампазітар вальсаў і музыкі для кіно, але таксама, як наш Ян Тарасевіч у мінулым, піша музыку для школьнікаў.

**i_basovka@o2.pl**

# Вершы Віктара Шведа

## Хачу быць іншы

Мама лае Пецю:  
— Страшэнны ты лодыр!  
Памагаюць дзеці  
Сваім бацькам заўсёды.

Начамі ты і днямі  
Ляжыш у ложку гэтак.  
— Ты ж мне сказала, мама,  
Каб іншы быў ад дзетак.

## Новы падручнік

Дзеці новы падручнік  
Атрымалі ў школе.  
Настаўнік просіць вучняў:  
— Шануйце, як ніколі!

За вас палову працы  
Ён выканаць павінен.  
— Дык мне дзве кніжкі дайце, —  
Сказала Антаніна.

# Польска-беларуская крыжаванка № 12

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 8:**

Лоб, плач, кран, класік, рулі, ранец, мяса, яна, Ян, марка. Лязо, вяз, ток, крама, клуня, пралеска, ласіца, сані, як, калена.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Іаанна Лукша, Анна Панькоўская, Алек Чарнецкі, Наталля Марчук** з Нараўкі, **Якуб Цішук, Міхась Бабік, Марта Цыванюк** з ПШ № 4 у Беластоку, **Аляксандра Валосік, Эмілія Сахарэвіч, Разалія Паўлючук, Віялета Вінская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



## Дзень беларускай Вікіпедыі ў Польшчы



Дзень беларускай Вікіпедыі ў Польшчы адбыўся 16 лютага г.г. у Варшаве. Мерапрыемства наладзілі супольна Беларуская нацыянальная памяць, Таварыства „Вікімедыя Польшча" ды Тамаш Блядынец — актыўны вікіпедыст. Тамаш — малады варшаўскі інжынер, фанат беларускай тэмы, даўней старшыня Звязу на карысць дэмакратыі ў Беларусі. Беларускую мову вывучыў самастойна. На пытанне адкуль узялася цікавасць да беларускай тэмы, гаворыць: „Здаўна цікавіла мяне тэма правоў чалавека. Калі я пазнаёміўся з беларускімі палітычнымі эмігрантамі, праблема сітуацыі ў Беларусі стала мне блізкай".

Галоўнай ідэяй праекта было распаўсюджанне выкарыстання беларускамоўнай Вікіпедыі беларусамі ды карыстанне беларускай мовай увогуле. Арганізатары хацелі таксама заахвоціць беларускае грамадства да грамадскай працы ды стварыць пачатак супольнасці беларускіх вікіпедыстаў. Паявілася таксама даволі дыскусійная ідэя спалучэння абодвух беларускіх версій Вікіпедыі ў адну, каб павялічыць колькасць артыкулаў. Актуальна існуе Вікіпедыя, якая пішацца класічным правапісам — тарашкевіцай ды другая, якая пішацца афіцыйнай наркамаўкай.

Лагатып для мерапыемства стварыў Дар'юш Вашчынскі з Белавежы, выпускнік беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, які па-аматарску займаецца камп'ютарнай графікай ды жывапісам. Лагатып звяртаецца да польскага і беларускага гербаў ды да сімволікі Вікіпедыі.

Сустрэча ў форме майстар-класаў адбылася ў варшаўскім Палацы культуры і навукі ў залах Collegium Civitas — адной з варшаўскіх ВНУ. У 11 гадзін мерапрыемства пачалося лекцыямі пра гісторыю Вікіпедыі, галоўныя мэты ды мэтады яе дзейнасці. Далей адбывалася ўжо практычная частка, у час якой удзельнікі стваралі новыя артыкулы ды далучалі іх да беларускай Вікіпедыі. Арганізатары забяспечылі тэхнічную дапамогу ды праінструктавалі наконт далучання новых тэкстаў у інтэрнэтную энцыклапедыю. Арганізатары падрыхтавалі ўсім новым вікіпедыстам абед ды пачастунак. Для самага актыўнага ўдзельніка, які ў Вікіпедыю ўвёў найбольш тэксту, была ўзнагарода — кніжка пра беларусаў у польскіх вайсковых фармацыях. Атрымаў яе Аляксандр Лагвінец. Сустрэча закончылася ў 18 гадзін уручэннем усім удзельнікам, якіх было каля дваццаці чалавек, падарункаў: кніжак пра Фрыдэрыка Шапэна і Марыю Складоўскую-Кюры ды сумак і алоўкаў з лагатыпам Вікіпедыі.

**Эва ВАШЧЫНСКАЯ**
**Графіка Дар'юша ВАШЧЫНСКАГА**



Фота Ганны Кандрацюк

Іаанна ЧАБАН

## Хлеб — любоў жыцця

Адной з самых вялікіх бед, якая не абмінае ніводнага чалавека, з'яўляецца смерць роднай мамы. Шчасліві той, каму лёс дазваляе нацешыцца яе ласкавай і клапатлівай прысутнасцю. Добрае мацярынскае сэрца здольнае перамагчы нават смерць, абаграваючы несмяротным цяплом душы пакінутых на той зямлі дзяцей. У маленькім сусвеце пяцігадовага Колі Дзіневіча заўсёды веяла холадам. Цёплае сонца любові не паспела запусціць там сваіх прамянёў. З нараджэння цягнуўся ён сіроцкай дарогай праз суровую міжваенную бяду. Яго маці памерла пры родах на бульбяным загоне, пакідаючы пад нагляд мужа нованароджанага і шасцёра недаросткаў. Бацька не спраўляўся з гаспадарскімі абавязкамі, таму хутка прывёў у хату новую дапаможніцу, дарабляючы пры нагодзе квартэт чарговых едакоў хлеба. Бяссонныя ад працы і турбот ночы, выціскаючыя апошнія кроплі поту, дні прыпраўленыя п'янствам мужыка пазбавілі маладую жанчыну людскіх пачуццяў да пасынкаў. Бедныя дзеці няраз заліваліся горкімі слёзамі за закрытымі для іх дзвярамі бацькавай хаты. Каб ашукаць штораз больш стамляльны голад, малому Колі неаднойчы прыходзілася выкрадаць недаварaную бульбу з печкі ці рэпу з прыхатняга загона. Ахвота запхаць абычым пусты жывот перамагала страх нават перад самымі суровымі пакараннямі мачахі. Хлеб шанцавала яму каштаваць толькі ў вялікае свята. Штодзень духмянымі лустамі мачаха надзяляла толькі сваіх родных дзяцей. Смак і пах гэтай незвычайнай і недаступнай стравы безупынна не давалі спакою малому хлопчыку. Аднойчы, не стрымаўшы спакусы, выкраў ён схаваны ў каморы кавалачак найдаражэйшага яму скарбу, але з'есці ўжо не паспеў. Пад дзвярамі каморы паявілася мачаха з рэменем у руках і пачала абкладаць хлапчыну. Дзіцячыя рукі сутаргава прыціснулі выкрадзены кусок да грудзей, не зважаючы на балючыя ўдары. Дзеля хлеба Коля быў гатовы перанесці найцяжэйшыя выпрабаванні, быццам пакутнік за веру ў пачатках хрысціянства. Хто ведае, чым гэтая гісторыя закончылася б, калі б у хату не заглянуў яго старэйшы дваюрадны брат. Здаровы, малады мужчына, пабачыўшы ледзь жывога хлопчыка з хлебам пры грудзях, ухапіў за камень і з цэлай сілы шпурнуў у жанчыну. Сіла ўдару была настолькі вялікай, што на дзвярах каморы з'явілася вялікая трэшчына. Слава Богу, што мачасе ўдалося ўхіліцца і тым самым пазбегнуць магчымай смерці.

Крывавыя раны і сінякі на плячах яшчэ больш умацавалі Колю ў пераканнані і празе звязаць свой лёс з хлебам. Яшчэ перад прызывам у войска рашыў ён папрабаваць сваіх сіл у непадалёкай пякарні. Яго адказнасць і сумленнасць у рабоце былі заўважаны старэйшымі пекарамі. Неадкладна пасля адбыцця вайсковай службы яму запрапанавалі сталую пасаду ў пякарні, дзе правёў больш за трыццаць гадоў свайго жыцця. Коля вельмі стараўся, каб яго выпечка была самай смачнай, не дапускаў ашуканстваў. Пільнаваў рэцэптур і якасці мукі. За яго хлебам з'язджаліся з найбольш адлеглых куткоў ваяводства. Мясцовым таксама здавалася, што Колін хлеб найсмачнейшы ў свеце.

Коля любіў не толькі выпякаць, але і дзяліцца хлебам. Часта, вяртаючыся з работы, аддаваў свой хлебны надзел усім напатканым, не пакінуўшы сваёй сям'і ніводнага кавалка. Любіў глядзець, калі людзі са смакам спажываюць яго выпечку. Гэта прыносіла яму, мабыць, самае вялікае задавальненне. Нават на пенсіі не мог ён выседзець без любімага занятку. Яшчэ перад тым як укласці ў хатнюю печку запоўненыя цестам бляхі, раздзяляў порцыі мясцоваму доктару, ветэрынару, сябрам, суседзям, знаёмым. Пра сябе ніколі не думаў, таму жонцы часта прыходзілася купляць хлеб у краме. Сваіх дзяцей вучыў пашаны і павагі для кожнай хлебнай крошкі, якую спажываў, перахрысціўшыся і пацалаваўшы яе.

Коля памёр раптоўна, на сямідзесятым годзе жыцця. Многа людзей адпраўляла яго ў апошнюю дарогу. Жонка мясцовага вэтэрынара асабліва не любіла пахаванняў, але з Колем прыйшла развітацца і падзякаваць за смачны хлеб. Па сёння мясцовыя ўспамінаюць Колю, які ўмеў спячы найсмачнейшы хлеб на свеце.

# Каравай

У суботу раніцай ідзе маладая са старшаю дружкай склікаць каравайніц. Хросная матулька рашчыняе каравай (не соліць) удзень, каб на вечар, калі прыйдуць каравайніцы, мелі што гібаці. Пад вечар хросная матулька месіць каравай, дадае яйкі, цукар і стаўляе, каб вырас. Вясельныя бацька і маці просяць каравайніц за стол і частуюць, а тым часам каравай падрастае. Як падрасце, прыносіць хросная матулька міску з вадой і просіць каравайніц, каб тыя памылі рукі. Хрышчоная матулька дзеліць каравай і для кожнае каравайніцы дае кусок цеста, каб мясілі, гібалі, каб цвёрды быў і не расплываўся. Каравайніцы спяваюць:

*А дзе ж тая матуленька, што цэлу ночку не спала, каравайніц збірала.*

*Ой, куточкі, суседачкі, прыхіліцеся да мяне, да майго дзіцяці, караваю гібаці.*

*А дзе ж тая матуленька, што ў шубі, няхай шукае да караваю кацюбы.*

*А дзе ж тая матуленька, што ў хаці, няхай шукае да караваю лапаты.*

Каравай пачынаюць ад падошвы, па баку ўстаўляюць пляцёнку, тады на ўскраек кладуць гусак, а потым хто што ўмее зрабіць. Гэтыя ўсякія выкананыя з цеста птушачкі, ружы, грыбочкі, кветкі кладуць на рашата, каб яны падраслі, а пасля на каравай. Траяны і дваяны абвіваюць тонкім валачкам і падпякаюць перад полымем. Каравайніцы далей робяць гусак. Кожная каравайніца мусіць зрабіць сабе дахаты гуску і пры тым усе спяваюць. Усё кладуць на бляхі і саджаюць у печ, перад тым змазаўшы каравай і гускі яйкам.

Пакуль каравай спячэцца, каравайніц саджаюць за стол і частуюць. Каравайніцы ядзяць, п'юць і спяваюць.

Спечаны каравай накрываюць чырвонай шаліноўкай і ставяць у камору да панядзелка.

Маці маладое падвязвае вышываным ручніком хроснага бацьку (маршалка), які ідзе туды, дзе стаіць каравай (у камору). Там і каравайніцы. Маршалку трэба ад іх выкупіць каравай. Таргуюцца, музыкант іграе, каравайніцы танцуюць і спяваюць:

*Наш маршалак не ўдайся, тры дні не ўмывайся.*
*На чварты ўмыйся і за маршалка ўпрасіўся.*

Спяваюць далей:

*Ой, харошы наш каравай, харошы,*
*Бо харошы каравайніцы гібалі.*
*Ой, высокі наш каравай, высокі,*
*Бо высокія каравайніцы гібалі.*

Маршалак прыносіць закуску і гарэлку, частуе каравайніц, але каравайніцы хочуць грошай і пільнуюць, каб каравая не ўкралі, бо і такое здараецца. Каравайніцы спяваюць і патрабуюць, каб маршалак даў больш грошай. Калі дойдзе да згоды, маршалак бярэ каравай, каравайніцы бяруць маршалка ўсярэдзіну, танцуюць, спяваюць і нясуць каравай на стол, ставяць каля маладых.

Ад Веры Осяк з в. Падляўкоўе Нараўчанскай гміны запісаў **Віктар БУРА**

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Браньскам (3)

„Наваколле сённяшняга мястэчка Гродзіск і трох вёсак з супольнай назвай Чорная, — як 21 год таму, пісалі ў „Ніве” а. Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік — здаўна было месцам асаблівага зацікаўлення з боку гісторыкаў, археолагаў і розных аматараў даўніны. Як рэдка дзе, на даволі вялікай тэрыторыі тут добра захавалася шмат помнікаў старажытнасці: курганоў, могільнікаў. Асаблівы характар гэтых ваколіц прадвызначалі, галоўным чынам, пасяленчыя плыні. Тут у X-XII стст. сустрэліся заходнеславянскія плямёны мазаўшан і ўсходнеславянскія дрыгавічоў і бужан. Наваколле багатае старажытнымі могільнікамі, як мазавецкага (магілы ў каменных абкладах), так і ўсходнеславянскага (курганы) тыпаў. Назву вёсак прадвызначыла, пэўна, рэчка Чорная, што праплывае побач. Летам рэчка маладводная, вясною затое крутая і вірлівая. Ад таго і атрымала яна іншую назву — Хітрая”.



Будынкі былога эскаэру ў Чорнай-Сярэдняй

„Слоўнік Каралеўства Польскага” з 1900 года так пісаў пра гэтыя вёскі: „Czarna: Wielka al[ias] Królewska, średnia i cerkiewna, trzy wsi, pow. bielski, gub. grodz[ieńska], gm. Grodzisk, par[afia] kat. Dołubów, 30 w[iorst] od Bielska. W[ie]ś Cz. Wielka ma 68 dm. [domów], 413 mk. [mieszkańców], 1029 dz[iesięcin]; Cz. średnia 647 dz., Cz. cerk. 29 dm., 153 mk., cerkiew, 380 dz. włośc. i 43 dz. cerk. Włościanie posiadają oryginalne przywileje królów. Na gruntach Cz. znajdują się kurhany i groby kamienne. Pod wsią Cz. Wielka wydobyto mnóstwo przedmiotów żelaznych, bronzowych i srebrnych oraz kości ludzkich. Pod wsią Cz. Cerkiewna jest nasyp prostokątny”. Дзесяціна крыху большая за гектар.

Даведнік Гродзіскай гміны інфармаваў, што ў 1921 годзе ў Чорнай-Царкоўнай было 33 хаты, у якіх пражывалі 152 жыхары; значыць на працягу двух дзесяткаў гадоў, якія ўключалі Першую сусветную вайну, у вёсцы прыбыло чатыры хаты і стала менш на аднаго жыхара. Айцец Р. Сасна і Д. Фіёнік пра Чарнянскі прыход: „У 1905 г. прыход налічваў 1150 душ. Назіраліся тады, аднак, даволі моцныя міграцыйныя працэсы. Так, напр., у 1913 годзе 20 чалавек выехалі ў Сібір, а 30 падаліся ў Амерыку”. Калі ўлічыць бежанства, якое напэўна не абмінула і гэтай вёскі, трэба меркаваць, што ў вёсцы значна памяняліся і канфесійныя прапорцыі... У Чорнай-Сярэдняй, паводле даведніка, яны выглядалі так: „W 1921 r. we wsi było 61 domów, w których mieszkało 299 osób (62 Polaków, 216 Białorusinów i 21 Żydów, a według wyznania: 56 katolików, 222 prawosławnych i 21 żydów), w leśniczówce mieszkało 10 osób”.

У Чорнай-Сярэдняй, якая распалажана даволі блізка Чорнай-Царкоўнай, працуе крама. Цяпер крамы на вёсцы гэта не надта частыя ўстановы; яны захаваліся толькі ў тых мясцовасцях, дзе захавалася яшчэ крыху больш насельніцтва. У вясковых крамах харчовая прапанова не надта раскошная і прымеркаваная яна, галоўным чынам, на мясцовага пенсіянера. У халадзільніку нашай тыповай вясковай крамы каля чатырохпіцi гатункаў недарагіх каўбас...

Слоўнік польскай мовы з 1989 года так акрэслівае каўбасу: „mięso odpowiednio przyprawione, napchane do jelita zwierzęcego lub w papierową formę kształtu jelita”. Слоўнік беларускай мовы з 1996 года: „прадукт харчавання з асоба прыгатаванага фаршу ў кішачнай або штучнай абалонцы”. У першым выпадку маем дачыненне з мясам, у другім — з фаршам, пад якім можна падразумяваць усялякую ўсячыну. Магчыма, што гэтая каўбасная польска-беларуская розніца адлюстроўвае розніцу паміж калгасным у Беларусі гаспадараннем і „кулацкім” у Польшчы. А магчыма, што яна адлюстроўвае і сямігадовы цывілізацыйны „прагрэс”...

Бо цяпер жа ж і ў польскіх каўбасах вельмі шмат фаршу, у якім, магчыма, замiж мяса толькі смакавыя кампаненты. Хіба ж нездарма польскі папа дазволіў спажываць такія вырабы ў пост... Вось такую каўбаску, *serdelek* (krótka, gruba kiełbaska z drobno mielonego mięsa), купіў я для падсілкавання. У ёй, здаецца, ёсць усё: і тлушч, і вугляводы, і бялкі, і вітаміны розныя, і карысныя мінералы, у тым ліку і калій з кальцыем, якія, запушчаныя ў працэсе земляробчай фертылізацыі, трапляюць пасля ў страваводы спажыўцоў. Каб так яшчэ ў працэсе фертылізацыі землябробы высыпалі ў поле розныя парашкі, што назойліва рэкламуюцца ў тэлебачанні — то на печань, то на горла, то на стрававод, на суставы, на маршчыны, на рост валасоў ці на іх дэпіляцыю... Як жа народ пазадравеў бы, клопаты службы здароўя канулі б ва ўспаміны, а лекары, заміж трывожыцца чэргамі ўсялякіх хворых, маглі б бестурботна падацца на Крым, на Канарскія астравы ці нават у Рыо-дэ-Жанейра. А хворыя не неслі б хабараў, напрыклад праслаўленаму доктару G., што выдатна абмежавала б карупцыю ў нашай краіне; тады і палітыкаў, паслоў нашых, можна было б пасылаць на востраў святой Алены...

У краме на той час, калі я туды зайшоў, спажыўцоў не было. Але калі я выходзіў, у дзвярах мінуўся з бягучай у вясковы храм гандлю жанчынай. Нос яе чырванеў, апранута яна была ў касцюм з агульнага джынсу ды і рвала яна ў краму не надта стабільным крокам. Было відаць, што яна пакутуе недахопам істотных для ейнага арганізму харчовых кампанентаў. А стацыянарная крама, гэта ж для некаторай катэгорыі асоб і аптэка, дзе можна абзавесціся гаючымі кроплямі ад невыноснага расхмялення. Гэтая катэгорыя народу багемная, не толькі па прычыне яе асаблівага духовага космасу, але і вопраткі, для якой непатрэбныя шафы, а дастаткова толькі аднаго цвіка...

Відзежы здараюцца рэдка і толькі нямногаму народу. Мне ж, калі я падыходзіў да шашы з Далубова ў Гродзіск, што пралягла на канцы Чорнай-Сярэдняй, наведала нейкая невідзеж. Менавіта тапаграфічная карта паказвала, што вясковая вуліца пасля перасячэння са згаданай шашой раздвойваецца на дзве дарогі: адну ў напрамку Чорнай-Вялікай, а другую ў напрамку Тарговіска, які калісь-калісь быў у складзе раней згаданых *dóbr rudzkich*. І з-за тае нявідзежы бачыў я толькі адну дарогу. Каб жа быў прадбачыў, то ў краме ўзяў бы нейкія кроплі, якія б дазволілі бачыць больш, нават там, дзе менш...

Хацеў я пайсці ў Тарговіск, дзе ў час мясцовай калектывізацыі бурліла радаснае будаўніцтва новага ладу на месцы колішняга маёнтка Патоцкіх. Але выбару ў мяне не было і падаўся я той адзінай дарогай, пацiху спадзяючыся, што яна раздвойваецца недзе далей. Але неўзабаве пабачыў я знаёмы абрыс вёскі, якая з узвышша апускалася ў даліну рэчкі Чорнай, якую называлі і Хітрай. Перада мною паказалася Чорная-Вялікая, якая раней была Чорнай-Каралеўскай. Побач гэтай вёскі мае свае крыніцы і згаданая рэчка...

Рачулка там кволенькая, хаваецца яна ў травах, магчыма, каб яе не выпілі птушкі ці жывёлы. Яна ж там такая слабенькая, як немаўлятка, якое траўка-матухна ахоўвае ад усялякіх небяспек, пакуль не набярэ сілы. Гэтак жа і той ручаёк мае нейкую сваю крыніцу, нейкія свае роды, калі ён паказваецца на белы свет. Можа мае нават нейкую душу, нейкія свае ўяўленні; мо, абагульняючы словы Якуба Коласа, *ён знае, як травінка сваю думае думу, што гаворыць жытні колас, і аб чым шуміць ячмень, і чаго спявае ўголас мушка, конік, авадзень*. А пасля набірае і набірае жыццядайную ваду, якую пазней улівае ў Нурэц, быццам абавязковыя пастаўкі. А далей тая вада ўліваецца ў большыя вадаёмы, у якіх плаваюць акулы, кіты, лайнеры і падлодкі... А ўсё гэта пачынаецца з такіх нейкіх крынічак, больш ці менш прыхаваных, як побач Чорнай-Вялікай, якая калісь называлася Чорнай-Каралеўскай. І можа там была нейкая адкрытая крыніца з гаючай вадою, дзе мо нейкая каралеўская дваранка выкупала нейкую сваю хворую жывінку, а пасля крыніца зарасла травою, як гэта апавядаецца ў шмат якіх мясцовых легендах...

Мовазнаўцы выводзяць назвы трох апошніх згаданых вёсак ад рэчкі Чорнай, што працякае побач іх. Але ёсць яшчэ і вулічны насціл, які асацыюецца з гэтай агульнай назвай. Менавіта дзве перш названыя вёскі маюць вулічны насціл з бруку, але і чорнага асфальту там па лапіку: у Чорнай-Царкоўнай ён каля царквы, у Чорнай-Сярэдняй яго крыху ад згаданай шашы, а ў Чорнай-Вялікай, як гэта і належыць „вялікай” вёсцы — уся вуліца пад асфальтам. І неяк так склалася, што там, дзе той асфальт, там і чуцен пах гною; аднак мяркую, што гэта выпадковае супадзенне, што дарожныя ўлады кладучы насціл не кіраваліся нейкімі жывёлагадоўчымі схільнасцямі.

А зараз за Чорнай-Сярэдняй тэрыторыя былога эскаэру, дзе страшаць разваліны былых гаспадарчых збудаванняў. І шыльдачка на плоце, што ўваход туды сурова забаронены. Быццам камусь рупіла б нечага там шукаць, нейкага пустака на галаву...

Пакінуўшы Чорную-Вялікую цягнуў я нагу за нагой у напрамку Дзядковіч. Па шашы праязджала многа машын, але цяпер не той час, калі людзі ездзілі фурманкамі і амаль заўсёды прапанавалі пешаходу пад'ехаць, пагутарыць. Цяперашнія „фуры” зашклёныя, нявыгадна з іх выхіляцца навонкі, ды і чаго размаўляць з чужым чалавекам, калі ў салоне радыёпрыёмнік паведамляе пра ўсе навіны з усяго космасу цяперашняга абываецеля. Аднак здараюцца яшчэ людзі старой даты, у якіх ветлівасць, ці мо прывычка, не выветралася з ходам цывілізацыйнага прагрэсу. Вось адзін вадзіцель, чалавек пажылы, і запрапанаў мяне падвезці. Наогул я адмаўляюся, бо ж іду чы па дарозе можна нешта цікавае пабачыць. Але дарога ад Чорнай-Царкоўнай да Дзядковіч мне ўжо крыху вядомая, да таго ж ногі былі мне ўжо стаміліся і я згадзіўся пад'ехаць. Вадзіцель быў з Касянкі, што за Гродзіскам, ехаў ён у Бельск да лекара. І па дарозе панаракаў мне ён на ўсё тое, што паказваюць у тэлевізары, на што наракае наш агульны народ. На палітыкаў ён наракаў, асабліва на ўрад — што ўсё пакралі і нічога няма. І на доктара G. таксама. Бо ж пажылы чалавек мае на што наракаць. Ён жа мае за сабою маладыя гады, калі і былі тады турботы, то яны неяк аптымістычна пераадольваліся і нават не запаміталіся. Не тое, што турботы пажылога ўзросту, якія дапякаюць акурат у час, калі ўжо няма забранага гадамі здароўя з імі змагацца...



# 20 гадоў з „Нівай”

Час бяжыць няўмольна. У гэтым годзе мінае 20 гадоў з дня майго дэбюту на старонках „Нівы”. Дакладна 4 красавіка 1993 года я дэбютаваў сваімі вершамі на старонках „Зоркі”. За той час многа змянілася ў маім жыцці. Закончыў я пачатковую школу, белліцэй у Бельску-Падляшскім ды беларускую філалогію на Універсітэце ў Беластоку. За той час памяняў я многа месц працы. Адно толькі не змянілася — надалей пішу на беларускай мове ды, самае найважнейшае, пішу сам ды ніхто за мяне не перакладае маіх вершаў ці фельетонаў з польскай мовы на беларускую. Не памянялася таксама тое, што пішу ў „Ніву”. Хаця здаралася, што мае вершы друкаваліся ў многіх польскіх газетах ды на Беларусі, то аднак маю сентымент да „Нівы”. Гэта адзіная газета беларусаў у Польшчы, якая друкуецца поўнасцю на беларускай мове ды ў асноўным — кірыліцай. „Ніва” заўжды была і ёсць адкрытая на мае новыя тэксты ды вершы. Добра памятаю, калі я першы раз прымаў удзел у Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы, арганізаваным ад 1996 года „Нівай”. За гэты час я таксама, дзякуючы Літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа” выдаў два зборнічкі сваіх вершаў — „Субота ў Малінніках” (2005) і „Самота дажджу” (2009). Дзякуючы сваім кніжкам меў я магчымасць сустракацца з чытачамі ў Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Беластоку, Брэсце і Гародні. Прыемна было пазнаёміцца з цікавымі маладымі чытачамі беларускай паэзіі. З сантыментам успамінаю гэтыя сустрэчы. Таксама прымаў я ўдзел у Сустрэчах „Зоркі”. Памятаю, як дзякуючы ім я пазнаў многа цікавых сябровак ды сяброў, звязаных з беларускім асяроддзем. Прыемна ўспамінаю сваё сяброўства з вядомымі паэтамі-белавежцамі — маім земляком Юрыем Баенам ды Уладзімірам Саўчуком, якога часта бачу ў маёй царкве. Іх абодвух паважаю не толькі прыватна як асобы, але і за іх творчасць. Шмат маіх сяброў разляцелася па свеце ды не ведаю, што зараз у іх чуваць. Некаторыя з іх сталі журналістамі ды дзеячамі ў беларускім асяроддзі.

Прачытаў я вельмі многа цікавых кніг за апошнія дваццаць гадоў, набраўся вопыту ды сустрэў многа цікавых людзей. Файна было, калі 19 траўня 2010 года мая аўтарская сустрэча ў Цэнтры праваслаўнай культуры ў Беластоку замянілася ў вялікую сустрэчу з маімі сябрамі, з якімі я даўно не бачыўся. Вельмі добра, што ў мяне моцная падтрымка не толькі з боку сяброў ці сям'і, але і выпадкова сустрэтых людзей на маёй творчай дарозе. Надалей пішуцца мне новыя вершы, фельетоны ды артыкулы. Безумоўна, маім натхненнем бываюць знаёмыя ды незнаёмцы, якія пытаюць ці я надалей пішу. Калі нехта пытае пра маю творчасць, дык значыць, што я патрэбны для свайго асяроддзя. Дзякую ўсім, хто мяне падтрымлівае. Прыемна, калі мае вершы друкуюць і польскія часопісы. Файна, што мае вершы „Зіма на Падляшшы” ды „Восень у Малінніках” друкаваліся ў маім любімым польскім тыднёвіку „Angora”. Гэта добра, што нехта ў маіх вершах заўважае больш, чым я сам бачу. Спадзяюся, што надалей буду мець магчымасць друкавацца не толькі ў „Ніве”, але і ў іншых часопісах.

**Юрка БУЙНЮК**

# БЕЛАРУСКАЯ ФІЛАЛОГІЯ Ў БЕЛАСТОКУ

## ЗАПРАШАЕ

Не прапусціце магчымасць атрымаць вышэйшую адукацыю ў нас.
Беларуская філалогія — адкрыты шлях у свет.

Адукацыя на гэтым напрамку прызначана для асоб, якія хацелі б на вышэйшым узроўні вывучыць беларускую мову, літаратуру, грунтоўна пазнаёміцца з культурай і гісторыяй гэтага моўнага абшару. Прымаюцца кандыдаты, якія ведаюць беларускую мову, а таксама тыя, хто яе не вывучаў. Праграмай прадугледжана таксама вывучэнне яшчэ дзвюх моў — англійскай і рускай і поўнае авалоданне камп'ютарнай тэхнікай.

Ёсць магчымасць абраць завочную форму навучання.

Выпусніка беларускай філалогіі чакае найперш беларускае асяроддзе ў Польшчы: школьніцтва, радыёвяшчанне, тэлебачанне, выдавецтвы, няўрадавыя арганізацыі. Патрабуюцца спецыялісты з веданнем беларускай мовы, культуры, беларускіх рэалій для міждзяржаўнага супрацоўніцтва паміж Польшчай і Беларуссю (камерцыя, культура, палітыка, самаўрадавая дзейнасць).

Кандыдаты маюць да выбару спецыяльнасці:

**— Беларуская філалогія**
**— Беларуская філалогія (вывучэнне беларускай мовы ад пачатку)**
**— Беларуская філалогія з англійскай моваю**
**— Беларуская філалогія з англійскай моваю (вывучэнне беларускай мовы ад пачатку)**

Дзённая форма, I ступень — тры гады
Дзённая форма, II ступень — два гады

Усе праблемныя пытанні ў справе рэкрутацыі на беларускую філалогію можна вырашыць па тэлефоне: **510-576-280**

Наш адрас:
**Instytut Filologii Wschodniosłowiańskiej,**
**15-420 Białystok,**
**ul. Plac Uniwersytecki 1**

Беларуская філалогія Універсітэта ў Беластоку святкуе сваё 20-годдзе. Будзем рады бачыць у сценах сваёй Alma Mater як нашых выпускнікоў, так і ўсіх зацікаўленых развіццём вышэйшай беларускай філалагічнай адукацыі ў нашым рэгіёне, усіх сяброў і прыхільнікаў беларускага слова, культуры, традыцый.

Святкаванне адбудзецца а 15-ай гадзіне 12 красавіка 2013 года ў Аўлі Філалагічнага факультэта Універсітэта ў Беластоку, пляц Універсітэцкі, 1.




Чысціня, як кажуць, гэта залог здароўя. Цяжка ўявіць жыццё і здароўе сучаснага чалавека без таго, чым дасягаецца гэтая чысціня — звычайнага мыла, якое спадарожнічае нам ад самага ранняга дзяцінства і аж да скону дзён. Прычым спадарожнічае штодня і ёсць нечым падобным на кісларод — незаўважнае, але неабходнае. Таму сёння звычайным мылам, нават вадкім, нікога не здзівіць. І перад мылаварамі паўстае пытанне, якім жа мусіць быць маркетынгавы ход, які ў рэшце рэшт прывядзе да заваявання пэўнай часткі рынку, прывабіць пакупніка-беларуса. І адным з такіх „мыльных” хадоў з яўнай прэтэнзіяй на поспех можна прызнаць брэнд „Karali” — мыла, якое пазіцыянуецца не проста як беларускае, але і мае гістарычны змест, бо акрэслівается як „шляхетнае мыла ручнога вырабу”. Наколькі яно шляхетнае і ці сапраўды ручнога вырабу, пэўна, могуць спраўдзіць толькі вялікія знаўцы мыльнай справы. Для нас жа цікавей паглядзець на сайт гэтай невялікай фірмы, каб упэўніцца, што багатая беларуская гісторыя можа ўдала выкарыстоўвацца для раскруткі брэндаў.

Сайт „Karali” месціцца па адрасе http://karali.by. Яго галоўная старонка ў нечым нагадвае сярэдневяковы родавы герб — назва, якую акаймляюць каралі, з двух бакоў узнятыя коні, наверсе нешта накшталт кароны. Уся гэтая выява размешчана на фоне прыгожага блакітна-зялёнага краявіду.

Выйсці да рубрык сайта знаходзіцца ўверсе выяўлення. Іх не надта многа, але дастаткова, каб пазнаёміцца як з прадукцыяй „Karali”, так і з поглядам на жыццё яго стваральнікаў. „Сучасны чалавек карыстаецца мылам ад 3 да 7 разоў у дзень — агулам гэта складае 3-15 штодзённых хвілін”, — так упэўнена сцвярджаюць мылавары на старонцы „Філасофія”, праўда, не падмацоўваючы гэтых лічб ніякімі спасылкамі на нейкія даследаванні.

„Мы хацелі зрабіць бездакорнае мыла. Мы распрацавалі адмысловы брэнд і сваю беларускую гісторыю для кожнага гатунку мыла”, — распавядаюць вытворцы, якія ўдала звязалі шляхетнасць, беларускую гісторыю і чысціню.

„Мыла «Karali» — цалкам беларускі брэнд, прыдуманы і створаны беларусамі. Мы хацелі стварыць прадукт, якім вы будзеце ганарыцца. Цяпер у адказ на пытанне: „А што ў Беларусі ёсць якаснага і свайго?” — вы нязмушана назавеце мыла «Karali»”, — кажуць мылавары, прымушаючы напачатку крыху засмуціцца ад асэнсавання малалікасці якасных уласнабеларускіх вырабаў. Праўда, потым гэты смутак праходзіць, калі ўзгадаеш, як нашы продкі стваралі беларускія кнігі, будавалі беларускую архітэктуру, ткалі беларускія паясы і гэтак далей.

„Кожны сорт мыла «Karali» мае назву і гісторыю, прысвечаную адметнай з'яве беларускай культуры”, — а вось гэтае сцвярджэнне знаходзіць дзейснае адлюстраванне на старонцы „Мыла «Karali»”. Тут перад фантазіяй мылавытворцаў варта зняць капялюш — „Віленскае барока”, „Панна Нясвіжа”, „Цуд на Калядзы”, „Чырвоныя парэчкі”, „Папараць”, „Валошкі” — гэтыя назвы гатункаў мыла вабяць неардынарнасцю і нібыта зыходзячым ад іх водарам спалучэння чысціні і беларушчыны.

Ну а каштуе такая чысціня і неардынарнасць па-шляхетнаму дорага — у пераліку на польскую валюту прыкладна ад 12 да 15 злотых за адзін кавалак мыла «Karali».

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

### Са славутага княжацкага роду

# 405 гадоў з дня смерці Канстанціна Васіля Астрожскага



З біяграфіі палітычнага і культурнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага, які прайшоў досыць працяглае жыццё, дакладна вядома толькі адна фіксаваная дата. На 21 сакавіка бягучага года прыпадаюць угодкі з дня яго смерці.

Нарадзіўся Канстанцін Васіль Астрожскі ў 1527 годзе ў родавым маёнтку Дубна на тэрыторыі сучаснай Валыні. Паходзіў ён з сям'і старажытнага княжацкага роду, які вёў адлік яшчэ ад тураўскіх князёў. Найбольш славутым прадстаўніком гэтага роду быў бацька нашага героя, які меў такое ж імя — славуты вяр, палітычна-рэлігійны дзеяч, які здабыў у беларускай гісторыі вялікую перамогу ў бітве пад Оршай. Маці Васіля была княгіня Аляксандра Слуцкая. Канстанціну Астрожскаму-сыну перайшлі ў спадчыну маёнткі ў Менскім, Мазырскім, Навагрудскім паветах. Ён атрымаў добрую пачатковую адукацыю.

Ужо з 1540-х гадоў Астрожскі выконваў розныя дзяржаўныя абавязкі, крыху пазней быў старастам уладзімірскім, маршалкам валынскай шляхты, з 1559 года і да канца жыцця — кіеўскім ваяводам. Ён значна павялічыў свае маёмасныя ўладанні. Паводле некаторых дадзеных яму належала 59 гарадоў і мястэчак, 856 вёсак, 111 фальваркаў у розных рэгіёнах. Гэта быў вельмі заможны магнат ВКЛ.

Як і многія іншыя магнаты княства Астрожскі быў супраціўнікам Люблінскай уніі. У канцы 1580-х гадоў, у перыяд чарговага міжкаралеўя, ён нават падтрымліваў план перадачы прастола ў Вільні расейскаму цару Фёдару. Таксама прымаў у сваім Астрозе пасланнікаў Барыса Гадунова, імкнуўся супрацьдзеіць каталіцкай экспансіі ў Рэчы Паспалітай. Астрожскі катэгарычна выступіў і супраць Берасцейскай царкоўнай уніі.

Заслуга Канстанціна Васіля Астрожскага ў нашай культуры найперш у тым, што ў сваім родавым маёнтку Астрог (сучасная Ровенская вобласць Украіны) ён стварыў славяна-грэцка-лацінскую калегію — так званую Астрожскую акадэмію, друкарню, якая была заснавана ў 1578 годзе Іванам Фёдаравым. Спакваля тут развіўся буйны культурна-асветніцкі цэнтр, дзе гурталіся літаратары, настаўнікі, навукоўцы. Дзеячы культуры з Астрога абменьваліся выданнямі з іншымі рэгіёнамі, выконвалі заказы праваслаўных брацтваў. З гэтага асяродка выйшлі такія асобы як празаік і паэт Андрэй Рымша, дыпламат ВКЛ Міхаіл Гарабурда, друкар з Заблудава Грынь Івановіч. Верагодна, што ў Астрогу пэўны час працаваў і Пётр Мсціславец. Менавіта тут былі выдадзены першыя друкаваныя школьныя дапаможнікі. Урэшце галоўнай рэлігійна-культурнай акцыяй згуртавання стала рыхтоўля і выданне ў 1581 годзе першай ва Усходняй Еўропе поўнай Бібліі, у аснову якой ляглі і кнігі Скарыны.

Астрожскі вызначыўся таксама як мецэнат праваслаўных цэркваў. Ён заснаваў школы ў Тураве, Слуцку, іншых месцах. Пасля смерці пахаваны ў Астрогу каля Богаяўленскай царквы.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Цудоўны трафей

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**


Весек Каравай з Даркавай здабычай.

Хоць да грыбнога сезона застаецца некалькі месяцаў, то аматары лясных вандровак ужо падаюцца ў паход. Маніць іх лясная звярына, а перш за ўсё... аленевы рогі. Любіцелямі такой здабычы з'яўляюцца Дарак, Весек, Славік і Кшысек з Чаромхі — сыны пакойнага Сашкі Каравая, ураджэнца Рэпчычаў. Яны штогод „палююць” на аленевы рогі. Найбольшых поспехаў дабіўся Дарак. У мінулым годзе знайшоў некалькі дзесяткаў большых і меншых рагоў. Сёлета першы раз падаўся ён у пушчу 17 сакавіка. Яму пашанцавала. Трапіўся цудоўны трафей — пара аленевых рагоў з пяццю адросткамі. Знаходку „ўпаляваў” у гушчары пушчы непадалёк вёскі Доўгі Брод (Мацкевічы).

# Таварыства „SANTA”

Надаўна любіцелі Белавежскай пушчы заснавалі каля Гайнаўкі Таварыства „SANTA”, мэтай якога з'яўляецца ахова пушчы.

Важнейшыя задачы Таварыства:

1. барацьба з псеўдаэколагамі;
2. барацьба з караедамі;
3. разумная лясная гаспадарка;
4. паказванне рэгіянальнай гісторыі і культуры;
5. даследаванне мясцовых легендаў;
6) арганізацыя экскурсій па пушчы.

Так, дзеля прыкладу, старажылы з Нараўчанскай гміны гавораць, што ў 28-м квартале пушчы даўно-даўно стаяла царква, а ў адлегласці васьмісот метраў ад яе былі могілкі — квартал 41. У 39-м квартале жыхары Альхоўкі знаходзілі вулічны каменны брук. Можа археалагічныя раскопкі нешта высветлілі б; сам стары пушчанскі лес нічога не скажа.

Таварыства „SANTA” будзе працаваць на карысць мясцовага грамадства.

# Грошы ў пушчы

У час крызісу часта чуем, што ў дзяржаўнай касе мала грошай, а тым часам у балотах Белавежскай пушчы ляжаць мільярды.

Падлічана, што ў цэлай пушчы стаіць і ляжыць 800 тысяч кубаметраў сухой, замерлай дубіны вартасцю ў 1,6 мільярда злотых; 1,2 мільёна кубаметраў яліны вартасцю ў 420 мільёнаў злотых; мільён кубаметраў ясеню вартасцю ў 550 мільёнаў злотых. Агулам у Белавежскай пушчы марнуецца драўніна вартасцю пад тры мільярды злотых. Калі б гэтую драўніну перарабіць, то казна ўзбагацілася б на чатыры мільярды злотых.

Хто быў у Белавежскім парку, той бачыў, як марнуюцца памерлыя дрэвы, як гніюць і не даюць дзяржаве карысці.

Жыхары прыпушчанскіх вёсак не разумеюць такой палітыкі і толькі разводзяць рукамі.

Мікалай ВАРАНЕЦКІ



Віктар ШВЕД

Беласток, 23 сакавіка 2013 г.

## Жыву я пад шчаслівай зоркай

Жыву я пад шчаслівай зоркай
І пад жыватворчым сонцам.
Ужо за мною дзве васьмёркі,
Ну а наперадзе — бясконцасць!

І як не быць тут аптымістам
І як не цешыцца сардэчна,
Калі такая рэчаіснасць,
Калі прымкнуў да даўгавечных.

Звяртаюся да аднагодкаў,
Што ўсё яшчэ жывуць на свеце:
Хоць лёс не заўжды быў салодкі
Сваё шануйце даўгалецце.

І цешуся, што нечакана
Можа і споўніцца папросту,
Што будзем мы ад шчасця п'яны -
Святкуючы год дзевяносты!

**Рэдакцыя „Нівы” віншуе нашага шматгадовага Аўтара з юбілеем. Жадаем бадзёрасці, здароўя і чарговых вершаў чытачам!**

# 24.03 — 30.03

**(22.03. — 20.04.)** Усё пойдзе па твайё думцы; маеш шанц сустрэць кагосьці цікавага. 24-28.03. афармляй пільныя справы; хтосьці ўступіцца за цябе, можаш разлічваць на сяброў. 25-29.03. Марс дадасць табе энергіі, якая лёгка абернецца супраць табе; малыя шанцы, што ёю пакарыстаешся. Пільнуйся: цікуе грозная канкурэнцыя

**(21.04. — 21.05.)** Знойдзеш новыя мэты. Удадуцца справы, звязаныя найперш з самаадукацыяй. Прыхільнасць сяброў і знаёмых пâможа ў рэалізацыі планаў. У пятніцу пільнуйся ад сабак. 27-31.03. будзеш мець вялікую сілу; новымі задумамі можаш пацэліць у дзесятку; нават паразу можаш перакаваць у поспех.

**(22.05. — 22.06.)** Адблакіруюцца твае ўдачы. Дасягнеш таго што хочаш, не страціўшы сімпатыі і прыхільнасці атачэння. Мусіш быць толькі рашучым і не балбатаць усюды і ўсім аб сваіх планах. Правярай кожную дамову, якую падпісваеш, асабліва ўмовы надрукаваныя дробным шрыфтам. Ды 27-31.03. зоркі могуць прынесці паслядоўнасці тваёй легкадумнасці.

**(23.06. — 23.07.)** Магчымыя неспадзяванкі: могуць паявіцца заданні, якія любіш. Калі нават зробіш малую памылку, не пераважлівай яе і не гавары аб ёй гучна. Карыстайся запрашэннямі. Час 27-31.03. прынясе табе вялікія кампанейскія поспехі. Не скромнічай! Хваліся тым што маеш, выклікай уражанне. Ды пры поўні Месяца (25-29.03.) не спадзявайся вялікіх прызнанняў і не пабытай каханння з сяброўствам.

**(24.07. — 23.08.)** Арганізуй сямейныя прыёмы. Нават калі пры гэтым рассакрэціцца нейкія тайны, ачысціць гэта атмасферу. 27-31.03. — час сур'ёзных выклікаў. Ільвы з пералому ліпеня і жніўня: не сягайце неабдумана па крэдытную карту. Ільвы, шукаючыя працы: не паліце мастоў за сабою на старой працы!

**(24.08. — 23.09.)** Не перанатужвайся фізічна. Можаш адчуць паслабленне энергіі, недахоп энтузіязму. Зрабі парадак у паперах на працы і дома. Не давярай сваіх спраў чужым рукам. 28-30.03. не ангажуйся ў праблемы іншых і не дай сябе абмануць круцялям.

**(24.09. — 23.10.)** 23-27.03. карыстайся кожнай нагодай. Энергія і пачуццё гумару з'яднаюць табе сімпатыю атачэння. Можаш пазнаёміцца з вельмі цікавай асобай. Маеш шанцы на выйгрышы, можа патаўсцець твой кашалёк. Ды 27-31.03. турбаваць цябе будзе зменлівасць настрою.

**(24.10. — 22.11.)** Тыдзень поўны прыгод. Іншыя будуць цябе слухаць. Рашэнні абдумвай. 25-29.03. прадбачваюцца небяспечныя падзеі. Пільнуйся! Асцерагайся няправільных рашэнняў! Будуць цяжкасці, за якімі стаяць чыесь злыя намеры. У сераду на тваёй дарозе паробяцца заторы. У пятніцу пазбудзься таго, што табе даўно мяшае.

**(23.11. — 22.12.)** 24-28.03. будзеш поўны энергіі і новых задум. Не бойся ставіць спраў рубам. Дзякуючы гэтаму чакае цябе поспех. Зайдзі на курсы, з якіх атрымаеш добрыя веды, не толькі пасведчанне. У апошнія дні сакавіка можаш другі раз атрымаць нейкую прапанову. Вельмі пільнуйся 27-31.03., каб не праваронiць чагосьці вельмі важнага.

**(23.12. — 20.01.)** 24.03. захавай спакой, не крытыкуй. Добрыя шанцы на падмацаванне бюджэту будзеш мець 26-30.03., дамагайся свайго! І не вагайся кінуцца ў вір работы. Будзе варта! Але ж 27.03. можаш парвацца на мерапрыемства, якое не мае шанцаў на поспех; твой энтузіязм гэта замала, каб дасягнуць поспеху.

**(21.01. — 19.02.)** 27-31.03. чакаюць цябе любоўныя парывы. Можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто перакуліць твой свет дагары нагамі! Папраў арганізацыю хатніх спраў. Давярай інстынкту ў каханні і фартуне. 27-31.03. могуць паявіцца некарысныя змены; зважай на тое, з кім маеш дачыненне.

**(20.02. — 21.03.)** Паслабець можа тваё здароўе. Не ачышчай цяпер арганізма, не сядай на дыету, добра высыпайся. Мусіш зважаць на зайздроснікаў, што хочуць уставіць табе палку ў колы. 25-29.03. — стрэс, спрэчкі, правакацыі і непатрэбнае саперніцтва. Не спрачайся.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка



1. культурная расліна, з зярнят якой калісь варылі кісель, 2. цвёрдае покрыва чарапахі, 3. Міхаіл, шахматны чэмпіён свету ў 1960-61 гадах, 4. народны паэт-пясняр у казахаў, 5. напрыклад, Макс Мірны, 6. прыбор, якога намагнічаная стрэлка паказвае поўнач, 7. марка савецкіх матацыклаў з Іжэўска, 8. сотніна гектара, 9. службовы ранг, 10. летні лагер для аўтатурыстаў, 11. вязкі асадак на дне вадаёмаў, 12. ты, ты і ты, 13. рама для вышывання тканіны, 14. іранская грашовая адзінка, 15. гульня на гобане, прыдуманая ў Кітаі, 16. бязлітаснасць, 17. група людзей аб'яднаных палітычнай мэтай, 18. мангольская пустыня, 19. кіргізскі горад у Ферганскай даліне.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Анды, мус, пеня, пуга, Сона, сыта, туз, улоў, Чыта.

Рашэнне: **Пусты стол мае адну загану, а поўны — тысячу**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва — ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# На шляху да другога Кангрэса

**Каля сямідзесяці чалавек прынялі ўдзел у трохдзённым семінары „Культура для Усходняга партнёрства”, значыць у серыі дыскусій, прэзентацый і рабочых сустрэч, прысвечаных культурнаму супрацоўніцтву па-над межамі Еўропы (8-10 сакавіка). Былі аніматары культуры і мастацтва з Венгрыі, Славакіі, Францыі, Бельгіі і краін-удзельніц праграмы „Усходняе партнёрства”: Беларусі, Малдовы, Азербайджана, Арменіі, Грузіі, Украіны і, вядома, польскія, у першую чаргу з Любліна і Жэшава і вельмі сціпла прадстаўленага Беластока, гарадоў, якія будуць складаць усходнюю вось, на якой будзе абапірацца сёлетні выпуск „Стадыёна культуры” (магчыма, пад іншай назвай) — цыкла падзей, асновааных на супрацоўніцтве з краінамі-ўдзельніцамі УП.**



Беларускія ўдзельнікі семінара

Семінар у асноўным быў прысвечаны распрацоўцы мадэлі кастрычніцкага ІІ Кангрэса культуры і новай формуле фестывалю, які прэзентуе культуру Усходу і Захаду ў Еўропе пад назвай „Інтэграцыя культуры Усходняга партнёрства”. Як паведамілі арганізатары, семінар павінен быць „платформай для дыялогу датычнага як ідэалагічнай асновы прыгранічнага супрацоўніцтва, так і практычных аспектаў такой дзейнасці, для распрацоўкі новых мадэляў культурнага супрацоўніцтва з краінамі-ўдзельніцамі УП, стварэння сеткі па падтрымцы арганізацый і мастакоў краін-удзельніц УП”. Нагадаем, што першы выпуск „Кангрэса Культуры УП” быў праведзены ў кастрычніку 2011 года ў Любліне (у той час мы пісалі пра гэта падрабязна ў „Ніве”).

Некаторыя з арганізатараў семінара, а таксама член кангрэса Рафал „Коза” Казінскі і Вітак Гэбаноўскі з Любліна прадказалі ў размове з „Нівай”:

— Першы Кангрэс даваў да выказання сваіх рэальных патрэб культуры краін-удзельніц Усходняга партнёрства. ІІ Кангрэс будзе месцам канкрэтных культурных мерапрыемстваў, ды часам для выпрацоўкі шляхоў рэалізацыі канцэпцыі агульнай культурнай прасторы: Еўропы без падзелу на Еўрасаюз і Усходняе партнёрства. Арганізуючы Кангрэс, хочам стварыць адкрытую прастору для самавыяўлення і творчасці прадстаўнікам свету культуры краін-удзельніц УП.

Адкрываючы семінар праз пасрэдніцтва скайпа, прэзідэнт Кангрэса Кшыштаф Чыжэўскі, старшыня Праграмнай рады Кангрэса, шэф сейненскага Цэнтра „Пагранічча — мастацтваў, культур і народаў” (Беларусь у Радзе прадстаўляе кіраўнік беларускага ПЭН-цэнтра, паэт Андрэй Хадановіч), сцвярджаў:

— Люблін невыпадкова з'яўляецца месцам кангрэса. Таму што ўсё больш і больш сваю тоеснасць будуе на ўсходній кампетэнцыі. Такім чынам будуе свой вобраз у нацыянальных і міжнародных форумах у розных галінах, але культура заініцыявала гэтае мысленне. Пераламала нежаданне да ўсходняй часткі Польшчы. На працягу доўгага часу тое выхіленне да ўсходу атаясамлівалася з чымсьці небяспечным, правінцыйным.

Мы сёння маем ужо ўсходнюю вось культурнага супрацоўніцта, паразуменне паміж Люблінам і Жэшавам, далучаецца да гэтага і Беласток. Нараджаецца ў Польшчы нешта важнае, такая ўсходняя накіраванасць. У ідэі кангрэса важна, што гэта не Брусель ініцыяваў розныя дзеянні ў адносінах да краін-удзельніц УП, а важна, што гэта самаўрады ўсходніх польскіх рэгіёнаў, іх гарады, маюць гэтую ініцыятыву і прадпрымальніцтва.

Адзначыў:

— Самым важным для нас з'яўляецца блізкае суседства, а не сувязі завязаныя дзесьці над іх галовамі. Гэтыя найбліжэйшыя часта з'яўляюцца найбольш цяжкімі. Кангрэс з'яўляецца стымулятарам зацікаўлення Польшчы Усходам.

Падкрэсліў:

— Нам патрэбна платформа набліжэння, стварэння кантактаў і сетак. Кангрэс звернуты не толькі на краіны-ўдзельніцы Усходняга партнёрства, але і на Заходнюю Еўропу, імкнецца быць злучальнай платформай паміж двума светамі. Мы па-ранейшаму падзелены Шэнгенскай ліній. Працяглыя, палітычныя і эканамічныя адрозненні не дазваляюць нам аб'яднаць сваіх сіл і тоеснасці думкі аб Еўропе як культурнай цэласці. Тут Кангрэс хоча мець сваё месца.

На працягу трох дзён семінара распрацаваны (у тым ліку і прадстаўніком „Нівы”) спіс спраў для афармлення ў час ІІ Кангрэса. Сярод іх апынулася неабходнасць разгляду візавых пытанняў, каб бенефіцыенты культурных праектаў, ахопліваючых краіны-ўдзельніцы УП, маглі лёгка атрымаць бясплатную доўгатэрміновую шэнгенскую візу і лёгка перасякаць польскую мяжу. Была звернута ўвага, між іншым, на: неабходнасць еўрасаюзнага фінансавання азнаямленчых візітаў удзельнікаў культурных праектаў у краінах-удзельніцах Усходняга партнёрства, вызначэнне „мяккіх” правіл разліку грантаў у рамках гэтага супрацоўніцтва (напрыклад, не заўсёды ў кожнай краіне-ўдзельніцы УП выпісваюцца рахункі згодна з рэкамендацыяй Бруселя), адсутнасць зацікаўлення і разумення некаторымі самаўрадамі сітуацыі ў краінах-удзельніцах УП („гэта яшчэ не з'яўляецца тэмай для органаў мясцовага самакіравання”), неабходнасць уключэння ў культурнае вымярэнне УП прадстаўнікоў арганізацый нацыянальных меншасцей у Польшчы і новай эміграцыі з краін-удзельніц УП у якасці паслоў, дарадцаў Кангрэса, цяжкасці ў кантактаванні з няўрадавымі арганізацыямі ў краінах-удзельніцах УП (да гэтага часу няма адпаведнай базы даных). Адной з найбольш важных праблем з'яўляецца неажыццяўленне многіх з больш чым дваццаці рэкамендацый, вынікаючых з пастаноў І Кангрэса, пералічаных у шасці пунктах (можна іх чытаць на сайце: **www.epccongress.eu**).

Два люблінскія вечары і спецыяльная дыскусія былі прысвечаны незалежнай культуры ў Беларусі. У першую ноч была адкрыта выстаўка, якую складалі фатаграфічныя творы Данілы Парнюка „Празднік” (мы пісалі пра іх з нагоды візіту ў мінскай галерэі „Ў” у апошнім нумары „Нівы”) і арт-відэа-прэзентацыі Міхаіла Гуліна, Сяргея Шабохіна і Аляксея Лунёва. У адным з запісаў Міхаіла Гуліна беларускія мастакі кранаюць праблему шматлікіх стэрэатыпаў, як у паводзінах, так і ва ўспрыманні свету. Аўтары імітуюць чалавечыя паводзіны, акліматызуюцца ў „чужым” асяроддзі шляхам агрэсіўных паводзін і крыткі наваколля, аж да перамогі над страхам перад невядомым. У сваю чаргу, напрыклад, у працы Сяргея Шабохіна „Art terrorism” выступаюць прадстаўнікі беларускай культуры пад лозунгамі, звязанымі з сучасным мастацтвам, у шапках-падшлемніках на галовах. На думку аўтара, гэта з'яўляецца адчайным жэстам, закліканым каб прыцягнуць увагу да сучаснага мастацтва.

— Запіс павінен быў стаць кульмінацыяй маёй персанальнай выставы ў 2011 годзе ў Гомелі, але я вырашыў, каб яе тады не паказваць у сувязі з тэрактам у мінскім метро, таму што гэтая праца з'яўляецца іроніяй, — сказаў аўтар „Ніве” ў Любліне.

Пазней Сяргей Шабохін (таксама куратар) прачытаў лекцыю аб працэсах, якія адбываюцца ў беларускім мастацтве апошніх двух дзесяцігоддзяў ды стварэным сайце, прысвечаным беларускаму сучаснаму мастацтву „Art Aktivist” (**http://artaktivist.org**). Успомніў легенды беларускага мастацтва 90-х гадоў мінулага стагоддзя, такія, як Артур Клінаў, Алесь Пушкін ці неіснуючая галерэя „Падземка”.

— У цяперашні час у Мінску можна ўсё, чаго нельга ў іншых гарадах, — гэтак спаслаўся на дзейнасць мінскай галерэі сучаснага мастацтва „Ў”, цэнтра аб'ядноўваючага людзей не толькі выяўленчага мастацтва, але і музыкі, літаратуры і, напрыклад, філасофіі.

Мастацкі кіраўнік „Ў” Ганна Чыстасердава распавяла:

— Мы таксама звярнулі ўвагу на выхаваўчую працу з грамадзянскай супольнасцю ў Беларусі, хаця ў Беларусі немагчыма гаварыць аб такой моцнай супольнасці. У мінулым годзе самым актыўным быў акцэнт на адукацыі. Мы хочам, каб „Ў” была таксама месцам міждысцыплінарнага характару. Рэалізуем праграму дапамогі маладым мастакам, у цяперашні час у нас шэсць такіх праектаў. У галерэі выкарыстоўваем усе магчымыя прасторы, таксама бар, дзе заняткі праходзяць не толькі па мастацтве.

Калі працягваўся семінар у Любліне, у галерэі „Ў” пры каве і гарбаце пачаліся заняткі па беларускай мове. Ініцыятыву для ўдзелу праявіла група маладых людзей, якія ў Мінску на працягу некаторага часу ў розных месцах арганізавалі серыю ўрокаў беларускай мовы „Мова ці кава”. Гатоўнасць прыняць удзел у гэтых мерапрыемствах у галерэі „Ў” заявіла на сённяшні дзень каля 90 чалавек.

Валянціна Кісялёва, дырэктар галерэі, у сваю чаргу ў інтэрв'ю „Ніве” растлумачыла дэталі праекта, які быў створаны пасля таго, як з беларускіх школ зніклі заняткі, прысвечаныя мастацтву:

— Наша краіна не зацікаўленая ў развіцці творчага мыслення. Творчасць гэта яшчэ шырыня поглядаў, свабода ўспрыняцця свету. Пазіцыя нашых адукацыйных устаноў для мяне з'яўляецца загадкай, таму што толькі творчыя людзі могуць пераносіць уперад і сябе, і навакольны свет. Нашы заняткі з'яўляюцца спробай прадставіць для дзяцей гісторыю культуры, мастацтва. Усё выкладаецца праз гульню. Кожны раз змяняецца тактыка лекцыі, і кожны раз у класе прысутнічае адзін з беларускіх мастакоў. Вынік гэтай дзейнасці — апублікаванне некалькіх пілотных кніг з працамі дзяцей. Намерваемся іх прадаваць.

Пісьменнік і кіраўнік кнігарні „Логвінаў” (выдавецкі кніжны магазін, які з'яўляецца часткай галерэі „Ў”), Павел Касцюкевіч, леташні лаўрэат літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца, якая прызначаецца Польскім інстытутам у Мінску (гутарка з ім у адным з бліжэйшых нумароў „Нівы”) прадставіў сітуацыю на пісьменніцкім рынку ў Беларусі і прадстаўленага выдавецтва:

— Для пісьменнікаў Беларусь гэта спацэнтр. Яны могуць глядзець на вуліцу і пісаць, як у цёплых краінах турысты рвуць бананы з дрэў. Наша кнігарня гэта штосьці большае, чым іншыя кнігарні. Звязана яна з жыццём пісьменнікаў. Важна, каб паглядзець беларускія кнігі, якія адрозніваюцца ад такіх у іншых кнігарнях, рускамоўных. Акрамя таго на нашых паліцах стаяць кнігі з сучаснай замежнай літаратурай: нямецкай, польскай і чэшскай, якая выдаецца разам з Інстытутам імя Гётэ, Польскім інстытутам і пасольствам Чэхіі.

Тацяна Арцімовіч, звязаная з культавым часопісам „pARTisan”, кіраваным пісьменнікам і мастаком Артурам Клінавым, заадно тэатральны крытык (інтэрв'ю на старонцы 5) прыгадала дзесяцігадовую гісторыю часопіса:

— На выдавецкім газетным рынку раней не было месца для незалежнай культуры. Выходзіў часопіс „Мастацтва”. Назва „pARTisan” звярталася да стэрэатыпаў Другой сусветнай вайны. Узялі „партызана” як міфічную фігуру і зрабілі яго героем, каб па-правакатарску разварушыць гэтыя стэрэатыпы і аказваць уплыў на грамадзянскую свядомасць. Часопіс мае выдавецкія праблемы і не мае магчымасці распаўсюду праз рознічную сетку кіёскаў і па падпісцы. Беларусь пачынае сёння ўступаць у глабальны кантэкст, а ўжо ў „pARTisanie” не хапае пісаць выключна аб з'явах, якія адбываюцца ў мастацтве Беларусі.

Тацяна Арцімовіч таксама распавяла пра беларускі свет тэатра апошніх двух дзесяцігоддзяў:

— Ні адзін з тэатральных студыйных праектаў у гэты час не атрымаў падтрымкі. У афіцыйным тэатры не было ніякай змены ў апошнія дзесяцігоддзі. Я ўсё яшчэ бачу тут спасылку на 1970-я гады. У тэатры часта перамагае аўтацэнзура.

Беларускі тэатральны свет быў у Любліне прадстаўлены таксама Марусяй Дашук, кіраўніком незалежнага тэатра „Korniag Theatre” і Аксанай Гайко з брэсцкага тэатра „Крылы халопа”, адзінага вулічнага тэатра ў Беларусі, які супрацоўнічае з польскімі „Тэатрам Восьмага дня” і тэатрамі „**Biuro Podróży**”, „Akademia Ruchu”, Wegajty. Апошняя распавяла ўдзельнікам семінара:

— У 2001 годзе аб'ядналі нас палітычныя і творчыя погляды, крытыка рэчаіснасці. Мы назвалі сябе „Свабодны тэатр” [з такой назвай дзейнічаў распушчаны ўладамі тэатр у Мінску пад кіраўніцтвам Валерыя Мазынскага — М. Х.], але там не было месца для двух „Свабодных тэатраў”, таму мы змянілі назву. Мы пачалі з вулічных акцый. Зрэалізавалі восем спектакляў, у тым ліку палову вулічных. Спектаклі для нас гэта не ўсё. Мы хочам змяніць рэальнасць, каб стварыць альтэрнатыўную культуру, змагаца са страхам, займацца „перыферыямі”: дзіцячымі дамамі, псіхічна нямоглымі, старымі. У Беларусі існуе дакладнае адрозненне паміж сталіцай і правінцыяй. На правінцыі, відавочна, няма неабходнасці альтэрнатыўнага мыслення.

У цяперашні час „Крылы халопа” намерваюцца да фестываля альтэрнатыўнай культуры. Падобны да яго фестываль, арганізаваны раней у Брэсце, быў забаронены ўладамі. Усё паказвае на тое, што ён знойдзе сваё месца ў вёсцы Залессе на дзікіх балотах у Белавежскай пушчы і будзе праходзіць у жніўні пад назвай „Прызба”.

Падчас аднаго з вечароў люблінскага семінара адрэкамендаваліся таксама прадстаўнікі беларускай электроннай музыкі.

Праз тыдзень — справаздача з багатай дэбаты з удзелам беларускіх удзельнікаў семінара.

ISSN 0546-1960